

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

4 ВЕРАСНЯ 1998 Г. № 36/3964 КОШТ 4 000 РУБ.







# Шлях да Міцкевіча

Беларуская акадэмія выяўленчага мастацтва адкрыла сваю штогоднюю выставу. І адкрыла незвычайна. Яна адзначыла двухсотгоддзе выдатнага беларуска-польскага паэта Адама Міцкевіча выставаю сваіх сяброў, якая адкрылася 26 жніўня ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Гэтым акадэмія абвясціла, што прыватна распачала выставачны праект "Беларускае мастацтва на мяжы тысячагоддзяў" (ідэя Саюз мастакоў не зацікавіла, але падштурхнула да таго, каб асобна адзначыць год Міцкевіча). Акадэмія мае намер прадставіць шэраг выстаў за досыць працяглы час, якія будуць прысвечаны дзеячам беларускай культуры альбо проста знакамітым нашым суайчыннікам. Гэта, на думку мастакоў, будзе напамінам аб моцным рэвалюцыйна-рамантычным уздыме, якім заўжды была прасякнута наша культура і які хацелася б бачыць і ў сённяшніх творах беларускіх мастакоў і пісьменнікаў. Таму выстава "Шлях да Міцкевіча" прапаведуе не канкрэтнасць, быційнасць, а апявае зямлю, людзей, час і само натхненне, спрадвечных спадарожнікаў кожнага таленавітага чалавека. Ну а кола мастакоў — проста бліскучае. Бо сябры акадэміі належаць да лідэраў свайго пакалення і, нягледзячы на вялікую ўзроставую розніцу, усе яны могуць і з задавальненнем выказваюць новыя ідэі, уласныя думкі і меркаванні, не баючыся нязгодных апанентаў. Гэта Ф. і В. Янушкевічы, У. Савіч, Р. Сітніца, В. Альшэўскі, А. Бараноўскі, У. Вішнеўскі, У. Зінкевіч, У. Панцялееў, Г. Скрыпнічэнка, Л. Шчамялёў, В. Славук, У. Тоўсцік і іншыя.



Ф. ЯНУШКЕВІЧ: "Ля вытокаў рэвалюцыі".

Беларуская акадэмія выяўленчага мастацтва, праўдзейная грамадская арганізацыя, існуе ўсяго некалькі год. Але ёй ёсць чым пахваліцца. Мастакі-сябры акадэміі актыўна займаюцца выхаваўчай і навучальнай дзейнасцю (амаль усе яны — выкладчыкі розных мастацкіх устаноў, у прыватнасці Беларускай акадэміі мастацтваў, мастацкіх школ і г.д.). Ад пачатку свайго існавання акадэмія дае стыпендыі лепшым студэнтам і дыпломнікам БелАМ, забяспечвае падручнікамі і мастацкай літаратурай мінскі мастацкі каледж. Цяпер, напрыклад, рыхтуецца першы пленэр маладых мастакоў Светлагорска, з якімі акадэмія цесна кантактуе. Акадэмія прычынілася да фарміравання выставачнага выгляду залы галерэі "Мастацтва" ў Мінску, у якой, па сутнасці, прайшоў "парад" выстаў

(Працяг на стар. 33)

## ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Той, хто атрымаў адукацыю ў савецкі час, памятае краевугольны тэзіс бальшавіцкага матэрыялізму аб абумоўленасці духоўнай "надбудовы" ўзроўнем матэрыяльнага "базісу". Інакш кажучы, перш чым пісаць вершы і карціны, ладзіць танцы і спектаклі, чалавек павінен мець кавалак хлеба, вопратку і дах над галавою. Якасць творчасці не ў малой ступені залежыць ад якасці прыгаданых вышэй кампанентаў жыцця. Гэта той выпадак, калі з бальшавікамі можна згадзіцца (тым болей, што гэта было вядома і да іх).***

***Што цікавіць сёння майстроў мастацтва? Ды тое ж, што і ўсіх астатніх. Курс долара. Абвальны расійскі рубель пацягнуў за сабою ў прорву і нашы грошы. Сёння расійцы плацяць за фанабэрыю (у нас, маўляў, свой шлях, Захад нам не ўказчык), мы — за "інтэграцыю". Рэальныя даходы беларусаў імгненна скараціліся на трэць, а цэны падскочылі, ці, у лепшым выпадку, засталіся ранейшымі...***

***Калі-небудзь нехта напіша дысертацыю аб уплыве інфляцыі на культурніцкі працэс у Беларусі ў другой палове 1990-х гадоў.***

### АДМОВА ТЫДНЯ

Нацыянальная акадэмія навук адмовіла ў падтрымцы аргкамітэту міжнароднага кангрэса "Дэмаграфічныя праблемы Беларусі". Аргкамітэту прапанавана пачакаць вынікаў перапісу насельніцтва, які плануецца на 1999 год, а потым наладзіць канферэнцыю па ягоных выніках. Аднак старшыня аргкамітэта кангрэса прафесар Міхась Цялуоўскі лічыць, што аддаляць вырашэнне праблем, прыкрываючыся чаканнем "больш аб'ектыўнай" інфармацыі, — злачынна, бо дэмаграфічная сітуацыя ў Беларусі выразна драматычная. Пачынаючы з 1993 года смяротнасць стабільна перавышае нараджальнасць. Летась насельніцтва краіны зменшылася на 32,3 тысячы чалавек. З 1990 года сярэдняя працягласць жыцця скарацілася з 71,1 да 68,5 года. На 100 родаў — 168 абортаў. У нас няма падстаў лічыць, што за апошнія 5 гадоў "жить стало лучше, жить стало веселей". Міжнародны кангрэс "Дэмаграфічныя праблемы Беларусі" адбудзецца, незалежна ад пазіцыі кіраўніцтва Нацыянальнай акадэміі навук.

### ФЕСТЫВАЛЬ ТЫДНЯ

У Мінску прайшоў "Неверагодны фестываль", арганізаваны галандскай фірмай Philips. Прэзентацыю апошніх вырабаў славутай кампаніі (у прыватнасці — шырокаэкранны (115 см) тэлевізар з плазменным экранам; такі плоскі (11 см), што вісіць на сцяне як карціна) суправаджала канцэртная праграма з удзелам гуртоў "Палац", "Ляпис Трубецкой", "Брава". Фестываль ужо зрабіў 11 прыпынкаў у Казахстане, Кыргызстане, Расіі, перш чым атабарыцца ў Мінску. Наперадзе — Летува, Латвія, Эстонія.

### ЭКАЛОГІЯ ТЫДНЯ

Згодна афіцыйным звесткам, штогод плошча звалак у Беларусі павялічваецца на 40—60 гектараў. Толькі "зарэгістраваныя" горы смецця займаюць сёння не меней як 1000 гектараў.

### ЗВАРОТ ТЫДНЯ

"Беларусь — 2000 гадоў" — назва звароту рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" да суайчыннікаў, у якім коратка пераказана гісторыя Беларусі ад Полацкага княства да Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР, пералічаны дасягненні ў галіне культуры ад Еўфрасінні Полацкай да Васіля Быкава. Рада ЗБС "Бацькаўшчына" заклікае беларусаў увайсці ў XXI стагоддзе грамадзянамі суверэннай дзяржавы. Прапанаваны культурніцкі праект "Беларусь — 2000 гадоў", у якім прадугледжана стварэнне мемарыялаў, выданне кніг, правядзенне навуковых доследаў, рэстаўрацыя помнікаў архітэктуры і гэтак далей.

### ЗНАЁМСТВА ТЫДНЯ

Міжнародны фонд эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва паміж Мінскам і Тайбэем, Тайбэйская гандлёва-эканамічная місія ў Мінску, Тайбэйска-маскоўская каардынацыйная камісія па эканамічным і культурным супрацоўніцтве 3 верасня прадставілі ў Музеі сучаснага мастацтва ў Мінску выставу "Тайбэй учора і сёння". У склад экспазіцыі ўвайшлі не толькі традыцыйна дакладныя копіі твораў жывапісу і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва старажытнага Кітая са збораў Нацыянальнага музея гісторыі Тайбэя, але і фотавыстава пра сучасны Тайвань, і жывапісныя творы аднаго з найбольш вядомых сучасных тайванскіх мастакоў прафесара Лан-Суін Вана і яго 39 вучняў. Выстава будзе дэманстравацца з 3 па 26 верасня, а пасля будзе падарожнічаць па абласных цэнтрах Беларусі.

### ЗНІКНЕННЕ ТЫДНЯ

У ноч з 31 жніўня на 1 верасня ў Віцебску знік з пастамента бюст расійскага генералісімуса Суворава, што стаяў непадалёк ад аддзялення міліцыі. Адказнасць узяў на сябе Мірон — асоба, якую Зянон Пазняк летась назваў "чалавекам года". Гэты інцыдэнт зноў нагадаў пра нявырашаную дагэтуль на дзяржаўным узроўні праблему — сацыяльна-палітычную і культурніцкую: што рабіць з помнікамі савецкага часу? З усімі гэтымі дзяржынскімі, ленінымі, суворавымі, калінінымі, манументы якім абражаюць суверэнную краіну і яе народ? Пакуль "наверсе" пытанне адкладзена на няпэўны тэрмін, за яго вырашэнне бяруцца "нізы"?

### РАШЭННЕ ТЫДНЯ

Чарнобыльская катастрофа паспрыяла таму, што ў Летуве ўзнік даволі шырокі грамадзянскі рух за закрыццё Ігналінскай АЭС (ядзерны рэактар такі ж, як у Чарнобылі). Але калі Летува атрымала незалежнасць, гэты рух сам сабою знік: Ігналінская АЭС — гэта 80 працэнтаў энергіі, якую выпрацоўвае Летува — для краіны, адключанай ад агульнасаюзнай энергетычнай сістэмы, закрыццё Ігналіна сталася б эканамічнай катастрофай.
Цяпер на Летуву ціснуць суседзі, якія баяцца новага Чарнобыля. І хоць, як маркуе летувіскае кіраўніцтва, Ігналіна нікому не пагражае, бо Швецыя выдаткавала грошы на ўмацаванне бяспекі эксплуатацыі АЭС, прынята рашэнне аб закрыцці Ігналінскай АЭС праз 15 гадоў. А ў Беларусі тым часам вядуцца спрэчкі, ці трэба нашай краіне мець уласную "парахавую бочку".

ФЭСТ

# Адрас свята — Орша

Святкаваць Дзень беларускага пісьменства ў першую нядзелю верасня стала ўжо традыцыяй. Сёлета ён будзе адзначацца пяты раз. А пачалося святкаванне 2 верасня, калі ад Свята-Духава кафедральнага сабора ў Мінску рушыла ў шлях навукова-творчая экспедыцыя "Дарога да святыняў". У яе ўвайшлі — святары, пісьменнікі, навукоўцы, журналісты, якія вязуць з сабой лампаду, запаленую ад агню, узятага ад Труны Гасподняй у Іерусаліме. Навукова-творчая экспедыцыя пройдзе праз Смалявічы, Жодзіна, Барысаў, Горкі, Магілёў, Віцебск і завершыць свой шлях раніцай у нядзелю ў старажытнай Оршы, на радзіме Уладзіміра Караткевіча, дзе і пройдуць асноўныя мерапрыемствы.

У Оршы пройдуць навукова-практычныя чытанні. Навукоўцы і краязнаўцы абмяркуюць пытанні гістарычнай спадчыны Аршаншчыны. Мяркуецца, што будзе шмат увагі нададзена жыццю і творчасці У. Караткевіча. Плануецца адкрыццё першай экспазіцыі музея пісьменніка. У Куцейне, дзе цяпер рэстаўрыруецца манастыр, будзе адкрыта памятная дошка ў гонар Спірыдона Собаля — тут была калісьці яго друкарня. Удзельнікі свята ўпершыню змогуць убачыць копію Рагвалодавага каменя, помніка каменнай эпітафікі XII стагоддзя, які быў знішчаны ў 30-ыя гады...

Удзельнікамі свята стануць і юныя аршанцы, якія ў рамках акцыі "Напісанае застаецца" збяруць дабрачынную бібліятэку.

Упершыню за час правядзення Дня пісьменства арганізуецца клуб чытацкіх сустрэч "Аўтограф". Непадалёк ад помніка У. Караткевічу з'явіцца "палянп Пегаса", на якой можна будзе паслухаць пісьменнікаў.

У свяце прымуць удзел госці з Расіі і Украіны. Навукоўцы з Пецярбурга павінны прывезці факсімільную копію славутага Радзівілаўскага летапісу, якая зойме сваё пачэснае месца ў музеі Нясвіжа.

# Новы твор Васіля Быкава

"Ваўчыная яма" — так называецца новая аповесць Васіля Быкава, якую пісьменнік толькі што скончыў у Фінляндыі. У цэнтры аповесці — былы салдат, а цяпер дзэерцір, які ўцёк не з поля бою, а з сучаснай вайсковай казармы. Ягоны шлях — у Зону. На атручанай, пакінутай зямлі спадзяецца ён знайсці схоў ад праследу, паратунак ад несвабоды. Зона, аднак, мае свае законы і няўмольную логіку...

Прэм'ера новага твора В. Быкава адбудзецца на хвалях беларускай службы радыё "Свабода" ў нядзелю, 6 верасня. Хвалі "Свабоды" — 31,41 і 49 метраў.

# Шлях да Міцкевіча

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

усіх астатніх мастакоў. Акадэмія адзначыла Вялікім залатым медалём творчую дзейнасць і 75-годдзе з дня нараджэння свайго старэйшага сябра Л. Шчамялёва. Усё гэта — у асноўным на грошы саміх сяброў акадэміі. Не адмаўляецца акадэмія, натуральна, і ад дапамогі мецэнатаў, але ў сённяшняй Беларусі знайсці іх стала складана, таму гэтыя з цяжкасцю здабытыя сумы ідуць на вялікія праекты.

Спазнала акадэмія і вялікую страту. У добрай памяці застанецца імя акадэміка жывапісу, віцэ-прэзідэнта акадэміі Міколы Селешчука, якім шмат было зроблена для развіцця беларускай мастацкай культуры. Пасля яго заўчаснай смерці два гады таму колькі работ набыў музей, іх, відаць, мы і зможам бачыць час ад часу на мастацкіх выставах. Так, работа "Злашчасны адвячорак", якая знаходзіцца ў экспазіцыі сённяшняй выставы, — са збору Нацыянальнага мастацкага музея.

Такі маштабны праект Беларуская акадэмія выяўленчага мастацтва распачынае ўпершыню. Яна ўдзячна Нацыянальнаму мастацкаму музею, які прадаставіў свае плошчы бясплатна.

Папярэднія выставы сяброў акадэміі, бывала, выклікалі нараканні. Зрэшты, гэта і натуральна, калі збіраецца кола мастакоў, прадстаўляе проста свае апошнія творы, не звязаныя тэматычна і ідэйна. Выратоўвае толькі тое, што гэта былі работы мастакоў аднаго прафесійнага ўзроўню і што надавала экспазіцыі роўнасць. Бо самая распаўсюджаная праблема нашых суполак — няўменне адбіраць і бачыць экспазіцыю цалкам, калі ў складзе мастакі розных творчых магчымасцей і, да таго ж, яны выказваюць амбіцыйнасць да адабраных і нявывешаных сваіх работ. Тым не менш шаноўныя акадэмікі даўно "саспелі" для таго, каб пайсці далей звычайных, адпрацаваных шляхоў суполачнай дзейнасці. Кожны з іх сам па сабе — асоба ў выяўленчым мастацтве, якая ўжо сцвердзіла свой своеасаблівы стыль і права на прыманне грамадствам і крытыкамі сваіх творчых пошукаў і эксперыментаў. Тым больш, што яны, знаходзячыся на "алімпе" сённяшняга мастацкага працэсу Беларусі, павінны кожны дзень пацвярджаць сваё права там і заставацца. Усе яны сабраліся разам не дзеля асаблівых выгод для сябе. Еўрапейскі вопыт паказаў, што грамадская арганізацыя мае больш шанцаў быць заўважанай і прынесці гэтым сабе і культуры большую карысць, чым асобныя вернісажы мастакоў, звычайна даступныя абмежаванаму колу гледачоў. Натуральна, што выставы, прысвечаныя вядомым дзеячам, прыцягнуць увагу грамадскасці. Яны акумулююць працы і



*Г. СКРЫПНІЧЭНКА: "Свіцязянка"*



*М. СЕЛЯШЧУК: "Злашчасны адвячорак".*

ВАНДРОЎКІ

# "Чароўны ўспамін"

У першай палове жніўня заўзятарамі беларускай гісторыі з Магілёва была арганізавана традыцыйная аўтавандроўка "Чароўны ўспамін". У адрозненне ад чатырох папярэдніх, скіраваных на захад, сёлетняе падарожжа ставіла мэтай знаёмства з усходам і поўначчу нашага краю. Вандроўнікі пабачылі слаўны горад Прапойск і прысыпаны цэментовым пылам Крычаў, наведалі знаныя мясціны Мсціслаўшчыны і першую сталіцу БССР Смаленск, а таксама памежныя раёны Пскоўскай ды Смаленскай абласцей і поўнач беларускага Паазер'я. Трэба адзначыць, што пошукі этнічнай беларушчыны ў памежных землях не прынеслі вялікіх адкрыццяў — яе там амаль не захавалася. Адзінае, што ўразіла — вялікая колькасць на тамтэйшым рынку беларускіх харчоў і асабліва — танных спіртовых напояў. Магчыма, "алкагольная агрэсія" і ёсць першая прыступка да адраджэння беларушчыны на былых этнічных землях, але ж алкагольная залежнасць — не самы лепшы від уплыву.

Сярод іншых уражанняў трэба адзначыць занядбанасць расійскіх вёсак і мястэчак ды адсутнасць на палетках прыкмет "бітвы за ўраджай". На гэтым сумным фоне тым больш вылучаецца "візітоўка" Расіі — Смаленск. Добрая захаванасць і дагледжанасць старых архітэктурных ансамбляў (у адрозненне ад нашых беларускіх гарадоў), вялікая колькасць помнікаў тутэйшым знакамітасцям і гістарычным падзеям розных эпох, актыўнае развіццё гандлю, бізнесу і паслуг — усё сведчыць аб вялікім ідэйна-палітычным значэнні горада і спрадвечным клопаце расійскай дзяржавы аб парадным выглядзе сваёй заходняй брамы.

І ўсё ж "Чароўны ўспамін" — не толькі звычайныя экскурсіі ў храмы і музеі, але і наведванне Катынскага лесу, пошук помнікаў паганскай культуры і "ўсходняй стаўкі Гітлера", сустрэчы з мясцовымі жыхарамі і песні ля вогнішча, начныя бяседы і рыбацкія прыгоды. Кульмінацыяй вандроўкі стала літаратурная вечарына на радзіме Яна Баршчэўскага, прысвечаная заўзятаму вандроўніку і песняру Паазер'я. Напрыканцы яе адбылася "размова" з духам самога аўтара "Шляхціца Завальні". Поўнач, хата на беразе возера, кволы агеньчык свечкі, вецер і няспынны дождж за вакном... Сюды б мог завітаць не толькі дух спадара Яна, але і любы з ягоных герояў. На шчасце, усё абышлося: пачвары засталіся ў нетрах возера і старонках "Фантастычнай Беларусі". А вандроўка паспяхова скончылася, нягледзячы на сюрпрызы неба і зямлі. Апошнім акордам яе стала наведванне святыняў Полацка і лясны фэст-імправізацыя ўсіх удзельнікаў вандроўкі.

**Васіль АЎРАМЕНКА**



*Л. ШЧАМЯЛЁЎ: "Цёплая восень".*

стымулююць творчасць. Да таго ж, акадэмія мае намер павезці выставы (у прыватнасці, выставу "Шлях да Міцкевіча") за межы Мінска. Яе ўжо чакаюць у Віцебску, Магілёве, Светлагорску, Гомелі, запрашаюць яе на Беласточчыну. Дзесятак год таму гэта магло лічыцца проста выездам у правінцыю, цяпер жа гэта — дальназоркая выставачная палітыка (французы гавораць, што дзяржава моцная культурным узроўнем сваіх правінцый). Сапраўды вызначальным крокам для Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва стаўся сам факт яе заснавання і правядзення выстаў, якія пры ўсіх адступленнях і дапушчэннях даюць аб'ектыўны зрэз сучаснага мастацтва Беларусі. На жаль, традыцыйныя рэспубліканскія выставы (не мае значэння, тэматычныя ці проста агульныя) сталі ў Саюзе мастакоў раскошай і рэдкасцю. Пры ўсёй няроўнасці прафесійнасці мастакоў такія выставы былі цікавымі справаздачамі творцаў за пэўны перыяд. Атрымліваецца, што зараз гэту функцыю саюза выконвае, у прыватнасці, БелАВМ.

Амаль усе акадэмікі асабіста — сябры. Яны часта збіраюцца, абмяркоўваюць сваю дзейнасць і дзейнасць калег. Найхутчэй усё гэта праходзіць у вольным стылі, больш прыдатным для творчых асоб, тым больш сяброў, якія не маюць адзін да аднаго творчых прэтэнзій. Членства ў БелАВМ не перашкаджае ім удзельнічаць у любых выставах і быць у складзе іншых суполак (напрыклад, у суполцы "Пагоня"). Бо галоўнае патрабаванне акадэмікаў да сябе — як мага большая праца. Але ўсе яны ганарацца тым, што яны — акадэмікі. Так яны ўжо за тры гады існавання прызнаны сваім асяроддзем, так яны прадстаўляюцца грамадству і з гонарам дадаюць такое азначэнне пры анатацыі выстаў. Цяжкавата, распавядаў прэзідэнт акадэміі Фелікс Янушкевіч, давалася разуменне і прызнанне ва ўладных кабінетах. У Міністэрстве культуры доўга не ўспрымалі Беларускую акадэмію выяўленчага мастацтва, не разумеючы, як можа быць такая структура, не зацверджаная на дзяржаўным узроўні. Нават на адкрыццё выставы "Шлях да Міцкевіча" не прыйшоў аніводны прадстаўнік Міністэрства культуры, хоць само міністэрства пазначана ў каталозе як заснавальнік выставы. Зрэшты, не адно яно адносілася да акадэміі і акадэмікаў як да дзіцячай гульні, якая скончыцца, як толькі "хлопцы" сустрэнуцца з сапраўднымі складанасцямі. А, можа, проста зайздросцілі, што — іх жа "не запрасілі"? Але "гульня" не скончылася. Не ўсё, натуральна, ўдалося так, як хацелася. Не пасылае акадэмія лепшых выпускнікоў стажыравацца, ну, напрыклад, у Італію. Затое адкрывае ім за свае грошы першыя выставы. Не выпускае свой часопіс, як меркавалася. Затое выйшаў ужо другі каталог сяброў акадэміі, выдадзены не толькі на шыкоўнай паперы, але й з вялікай колькасцю цікавай інфармацыі. А Г. Скрыпнічэнка і А. Бараноўскі надзвычай ганарацца тым, што іх прынялі нядаўна ў кола акадэмікаў.

Ды галоўнае, што выставы БелАВМ з году ў год становяцца ўсё больш цікавымі. Вобраз Міцкевіча — тэма ўдзячная. Яна не патрабуе стварыць партрэтную галерэю паэта, дзе глядач толькі б і займаўся, што шукаў падабенства вобраза. Міцкевіч як паэт быў блізкі душою да Беларусі. Ужо дакладна вядома, што нарадзіўся ён тут, і знакамітае Завоссе знаходзіцца блізу Калдычава (Баранавіцкі раён). Ён слухаў беларускія паданні і казкі ад сваёй беларускай нянечкі, ён выхаваўся, выпеставаўся душою сярод беларускай прыроды. Менавіта такое дакрананне да Беларусі, рамантызм самога вобраза пана Адама натхніў мастакоў на стварэнне выставы. Выставы выдатнай і надзвычай паэтычнай. Тут усяго некалькі партрэтных выяў Адама Міцкевіча — В. Альшэўскага, Ф. Янушкевіча. У асноўным мастакі імправізавалі, зазіраючы ў сваё адчуванне радкоў выдатнага паэта. Яны звярнуліся да мясцін, звязаных з яго жыццём (напрыклад, Ю. Хілько — "Калдычаўскае возера", У. Вішнеўскі — "Легенда пра Свіцязь", У. Тоўсцік — "Ценям пана Адама" ды іншыя). Яны проста паспрабавалі адчуць, як яна гучыць, рамантызаваная беларускасць, як спявае ў фарбах на палатне. Таму так аднаэначна ўпісаліся ў канцэпцыю выставы нястромкія тыпова беларускія пейзажы А. Бараноўскага, фантасмагарычныя кампазіцыі Г. Скрыпнічэнкі ("Смутак", "Гражына"), фантазіі У. Зінкевіча ("Шлях цераз Бярэзіну"), графічная лексіка Р. Сітніцы ("Крывіцкая Мекка"), ілюстрацыі народных паданняў В. Славука (да "Чорнай дамы", "Жывой вады" і іншых), скульптурныя кампазіцыі В. Янушкевіча і У. Панцялеева...

Не ўсе сябры акадэміі паўдзельнічалі ў стварэнні экспазіцыі. Напрыклад, не было работ Г. Вашчанкі, які зараз рыхтуецца да персанальнай выставы. Як зазначаюць самі акадэмікі, частка маладых мастакоў праце недастаткова, і яны, натуральна, адасабляюцца ад акцый БелАВМ. Але галоўнае, акадэмія пацвердзіла, што яе заснаванне не было дарэмным ці выпадковым. Ідэя — дзейнічае. А гэта — мастакоўская прафесійнасць і магчымасці творчых пошукаў.

**Н. ШАРАНГОВІЧ**

*Фота К. ДРОБАВА*

АБСЯГІ

*МАГІЛЁЎ...*

## Выдавец — абласны цэнтр народнай творчасці

У Магілёўскім навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці і культасветработы выйшла ў свет "Хрэстаматыя беларускай народнай песні Магілёўшчыны". Яе аўтарка — выкладчыца музычнага вучылішча Ларыса Зыкава, якая некалькі гадоў таму з'явілася пачынальніцай такіх выданняў. Яе "Песні Магілёўшчыны" сталі першым друкаваным зборнікам народных твораў беларускага Падняпроўя. Добры медазбор на ніве народнай песні правялі і дырэктар Глускай дзіцячай школы мастацтваў Галіна Церашонак. На рахунку гэтага таленавітага фалькларыста кніжкі "Песні роднага краю", "Дыяменты ў аправе", "Над рошчаю зеляной", "На тройцу дзеўкі вянкі вілі", якія сталі вынікам вандровак Галіны Пятроўны па вобласці.

Надае ўвагу цэнтр народнай творчасці і кампазітарам Магілёўшчыны. Ён выдаў першыя кніжкі твораў Валянціны Макеевай з Горак, Віктара Шышкаўца з Асіповічаў, Леаніда Ячнева з Клімавіч, Яўгена Маланкова з Магілёва, а таксама калектыўныя зборнікі "Песні пачынаюцца з сэрцаў", "Людзі каля вечнага агню", "Гармонік грае, грае". Зараз рыхтуецца да выдання зборнік лепшых лірычных песень аўтараў Магілёўшчыны.

## І зазвініць фестываль...

Як паведамлялася ўжо, у нядзелю зазвініць у Магілёве міжнародны фестываль фальклору, які пройдзе тры дні. У ім возьмуць удзел лепшыя фальклорныя калектывы Магілёўшчыны, а таксама "Верасень" з Тверы, "Казацкая песня" з Краснадара, "Навалецце" з Тулы, "Трускаўчанка" з украінскага горада Трускавец. Чакаюцца госці з Польшчы.

Удзельнікі фестывалю выступяць не толькі ў абласным цэнтры, але і наведаюць шэраг раёнаў.

## Адзін з кагорты перасоўнікаў

Магілёў з'яўляецца радзімай пленэру ў гонар слыннага майстра пэндзля, народнага мастака Расіі і Беларусі Вітольда Бяльніцкага-Бірулі, які нарадзіўся непадалёк ад сённяшняга райцэнтра Бялынічы. Пленэр неадройчы збіраў у Магілёве выдатных мастакоў многіх краін. 9 верасня ў горадзе адкрыецца міжнародны пленэр імя другога цудоўнага жывапісца, слаўнага сына Расіі, настаўніка В. Бяльніцкага-Бірулі акадэміка Мікалая Неўрава, які апошнія гады свайго жыцця правёў у вёсцы Лыскаўшчына цяперашняга Круглянскага раёна. Мікалай Васільевіч быў адным са слаўнай кагорты рускіх мастакоў-перасоўнікаў. У Лыскаўшчыну ён прыехаў на запрашэнні свайго сябра, вядомага палкаводца генерала Міхаіла Чарняева, які быў родам з тутэйшых мясцін.

М. Неўраў скончыў сваё жыццё трагічна — у час душэўнага разладу, выкліканага хваробай і ашуканствам блізкіх людзей, ён застрэліўся ў вясновым садзе. Пахавалі яго В. Бяльніцкі-Біруля на свае сродкі.

Удзельнікі пленэру пабываюць на магіле М. Неўрава і прысвецяць свае творы краю, які стаў апошнім прытулкам цудоўнага рускага жывапісца.

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

*ГОМЕЛЬ...*

## Вучылішча стала самастойным

З першага ліпеня ў абласным цэнтры адкрылася мастацкае вучылішча (былы філіял Мінскай мастацкай вучэльні). У самастойнай ужо навучальнай установе адбыўся выпуск. Прафесію жывапісца атрымалі 27 чалавек. Выстава, на якой былі прадстаўлены творчыя работы маладых мастакоў, яшчэ раз красамоўна пацвердзіла іх высокі прафесійны ўзровень. Большасць выпускнікоў Гомельскага мастацкага вучылішча па накіраванні ўпраўлення культуры адправілася на выкладчыцкую работу ў школы чарнобыльскай зоны.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## А кніжкі ўсё ж выходзяць

Хоць і цяжкае зараз жыццё, а кніжкі пачынаючых аўтараў усё ж выходзяць. І робіцца гэта пры непасрэднай падтрымцы абласной пісьменніцкай арганізацыі. Дзякуючы яе высілкам ужо ўбачылі свет кнігі вершаў для дзяцей Яўгена Калашнікава і Міколы Хамянкова, казак — Анатоля Караленкі, вершаў — Ганны Атрошчанкі... Супрацоўніцтва з пачынаючымі літаратарамі Гомельшчыны працягваецца.

**Ігар ЛЯСНЫ**

*БРЭСТ...*

## Рыхтуемся да "дажынак"

Абласны грамадска-культурны цэнтр, як і іншыя установы Брэстчыны, рыхтуецца зараз да хлебаробскага свята — "Дажынак". Дванаццатага верасня ў Бярозаўскім раёне запланавана прадстаўленне "Грай, гармонік!" (летась праходзіла яно на Століншчыне). У канцэртнай праграме прымуць удзел 250 лепшых выканаўцаў з кожнага раёна вобласці. Увечары ўсе раз'едуцца з канцэртамі па гаспадарках Бярозаўскага раёна. Трынаццатага верасня адбудзецца абласное свята "Дажынкі". Распрацавана вялікая і разнастайная культурная праграма: гарадскі кірмаш, спартыўныя мерапрыемствы, выставы-продажы. На галоўнай плошчы пройдзе ўшанаванне лепшых удзельнікаў жніва, а на гарадскім стадыёне — тэатралізаванае прадстаўленне "Зямны паклон вам, хлебаробы!"

**Святлана ГУЛЯЕВА**

*ВІЦЕБСК...*

## Святая Барбара сустракае Маці Божую

Заўтра рымска-каталіцкая парафія Віцебскага касцёла святой Барбары сустракае вандроўную фігуру Маці Божай Фацімскай, якая вось ужо год "наведвае" ўсе касцёлы Беларусі. Гісторыя аб'яўлення Маці Божай у партугальскім мястэчку Фаціма незвычайная. У 1917 годзе перад трыма малымі пастушкамі з'яўлялася Найсвяцейшая Панна. І яны з ёй размаўлялі. Маці Божая Фацімская прадказала ўсяму свету, што чакае людзей у крывавым XX стагоддзі. Пілігрымка славутай фігуры цяпер дапамога беларусам падрыхтавацца да сустрэчы 2000 года. Па словах святога Айца Яна Паўла II "касцёл не можа пераступіць парога новага тысячагоддзя, не праспешваючы сваіх сыноў да ачышчэння праз пакаянне ад памылак, нявернасці, непаслядоўнасці і занядбанняў".

**Святлана ГУК**

## Наваполацку — 40 гадоў



**Спакотным летам 1958 года на левабярэжжы Заходняй Дзвіны была пастаўлена першая палатка. А сёння тут размяшчаецца сучасны горад. Імя яму — Наваполацк. Людзі і іх жыццё ствараюць яму своеасаблівы каларыт і робяць горад надзвычай прывабным.**

**Полаччына здаўна славілася таленавітымі людзьмі і традыцыямі высокай культуры. І сёння Наваполацк ганарыцца сваімі пісьменнікамі і паэтамі, чые кнігі выдаюцца не толькі на Беларусі, а і за яе межамі, мастакамі, чые карціны прадстаўлены ў дзяржаўных музеях рэспублікі і прыватных калекцыях Еўропы і Амерыкі.**

**На здымку: сям'ю наваполацкіх мастакоў Лук'яненкаў ведаюць далёка за межамі нашай рэспублікі. Бацькі Віктар і Вольга — члены Саюза мастакоў рэспублікі, а іх дачка Уля экспанавала карціны ў галерэі "Ізмайлава" і ў "Вялікім тэатры" ў Маскве, на іншых прэстыжных выставах.**

*На здымку — Уля з бацькам у майстэрні.*

*Аляксандр ХІТРОЎ, БЕЛТА*

## Адчуваў водар мовы

**Гэтак можна сказаць пра знакамітага мовазнаўца, акадэміка Акадэміі навук Беларусі Мікалая Бірылу, якому ў гэтыя вераснёўскія дні споўнілася б 75 гадоў (не стала Мікалая Васільевіча ў 1992 годзе). Удзельнік партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны, ён у 1947 годзе пачаў працаваць у тагачасным Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР, а з 1952-га ў Інстытуце мовазнаўства. З 1956 па 1958 год М. Бірыла з'яўляўся прафесарам кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. А пасля зноў у Інстытуце мовазнаўства — загадчык сектара навуковай тэрміналогіі, старшы навуковы супрацоўнік, загадчык сектара сучаснай беларускай літаратурнай мовы і культуры мовы. Быў акадэмікам-сакратаром Аддзялення грамадскіх навук Акадэміі навук БССР.**

**Мікалай Васільевіч плённа працаваў у галіне беларускай дыялекталогіі, сучаснай беларускай літаратурнай мовы, беларускай анамастыкі і лексікаграфіі. Быў сааўтарам такіх вядомых прац, як "Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія", "Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі", "Дыялекталагічны атлас беларускай мовы", "Нарысы па беларускай дыялекталогіі", "Руска-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай тэрміналогіі"... Узначальваў калектыў па падрыхтоўцы "Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа".**

## Купалы сябра і перакладчык

**120 гадоў назад у Сімбірску (Расія) нарадзіўся Апалон Карынфскі (не стала Апалона Апалонавіча 12 студзеня 1937 года) — будучы рускі паэт і перакладчык. А. Карынфскі друкаваўся з 1886 года. Асабліва поспеху дасягнуў, узнаўляючы ў сваіх творах падзеі глыбокай даўніны. Пасябраваўшы з Янкам Купалам, А. Карынфскі стаў адным з першых перакладчыкаў яго твораў на рускую мову. Рускі чытач змог пазнаёміцца з творчасцю Я. Купалы, дзякуючы перакладам, што былі змешчаны ў часопісах "Трезвая жизнь", "Педагогический листок", "Весь мир"... Пераклады А. Карынфскага надрукаваны і ў кнізе Я. Купалы "Избранные стихотворения в переводах русских поэтов", што выйшла ў Маскве ў 1919 годзе. Дарэчы, Апалон Апалонавіч узнаўляў па-руску і творы Адама Міцкевіча.**

ЧАС І МЫ

# У лабірынтах віртуальнай рэальнасці

I

Калісьці правадыр сусветных рэвалюцыянераў У. Ленін даволі ёмка ахарактарызаваў сутнасць камунізму, звёўшы яго ў простую формулу: савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны. Антыпод камунізму — капіталізм — доўга не паддаваўся гэткай спрошчанай схематызацыі, але ўрэшце і ён не выстаяў. З пачаткам бурнага развіцця электронікі сталася мажлівым і ягоную сутнасць загнаць у жорсткую формулу: буржуазная ўлада плюс усеагульная камп'ютэрызацыя... У нашай краіне, як вядома, будуецца ці рэстаўруецца зусім іншы лад, але вось што датычыць камп'ютэрызацыі... Куды ні кінь сёння погляд, вакол спрэс камп'ютэрызацыя. Не дзіва, калі ёю ахоплены офісы багатых бізнесменаў ці важных урадавых установаў, кабінеты вучоных і ўрачоў. Там, як кажуць, сам Бог загадаў. Камп'ютэры сёння можна бачыць часам у зусім нечаканых месцах: ад дзіцячых ясляў да грамадскіх прыбіральняў. Нямала з'явілася іх і ў кватэрах беларусаў, прычым не толькі "новых". Камп'ютэры паступова становяцца даступнымі і для не надта "новых", а то і зусім не "новых" нашых землякоў.

Не, большасць з гэтых нашых землякоў не разбагацелі, хутчэй наадварот. Але вось камп'ютэры ператварыліся паступова з прадметаў раскошы, якія каштавалі "на світанку" камп'ютэрызацыі ў Беларусі ці не цэлай маёмасці, у прадметы ледзь не першай неабходнасці. Прычым кошт іх знізіўся да такога памеру, што гэтыя прыборы сталі даступнымі (вядома, пры моцным жаданні) нават для многіх нашых творчых інтэлігентаў, бедных пры любым ладзе і пры любой палітычнай сістэме. Камп'ютэр сёння сталася мажлівым набыць нават за 100-200 долараў. Вядома ж, тэхніка такога кшталту — "не першай свежасці", але працаваць яшчэ можа, а значыць і можа быць карысанай. Ёсць на нашым рынку і новыя машыны, але кошт іх, мякка кажучы, неадэкватны нашым сціплым магчымасцям.

І ўвогуле сённяшняя сітуацыя ў свеце з камп'ютэрызацыяй вельмі нагадвае сапраўдную снежную лавіну. Усемагчымая супертэхніка абрынаецца на беднага абывацеля-спажыўца сапраўднай лавінаю-плынню, што ён (сапраўды ж бедны!) літаральна захлынаецца ў ёй. Вельмі цяжка арыентавацца ў такім багацці выбару... Усё гэта — і невысокі кошт, і вялікі выбар — вынік нечуванага развіцця ў свеце электроннай прамысловасці, асабліва ў краінах Паўднёвай Азіі, якія, учэпіста асядлаўшы электроннага коніка, спрабавалі абскакаць амерыканскіх ды еўрапейскіх электронных каўбояў. Доўгі час ім удавалася трымацца, як кажуць, на ўзроўні. І толькі апошнім часам іх прыпынілі...

Як бы там ні было, але камп'ютэр паступова заваёўвае і нашы прасторы, пранікаючы нават у самыя аддаленыя куточкі Беларусі. Даводзілася бачыць гэты "цуд" тэхнікі нават у сціплай сялянскай хаце, дзе камп'ютэр сярод чыгуноў і даматканых дываноў выглядаў досыць чужым і, як мне падалося, вельмі сумным. Асноўная ж канцэнтрацыя гэтага "цуду" прыходзіцца на сталіцу і буйныя гарады. Дакладнай статыстыкі, мусіць, не ведае ніхто. Напрыклад, колькі камп'ютэраў прыходзіцца на адну тысячу жыхароў? Ёсць, вядома, прыблізныя лічбы, якія даюцца ў спецыялізаваных выданнях, але яны наўрад ці адпавядаюць рэчаіснасці. Бо, як сказалі мне ў адпаведных інстанцыях, экспарт такой тэхнікі толькі на першы погляд лёгка рэгуляваць. Яна сёння ў вялікай колькасці ўвозіцца не зусім легальна, асабліва праз тэрыторыю нашай любай суседкі Расіі. Паколькі няма аніякай магчымасці стварыць новую "жалезную заслону", яе ўвоз цяжка паддаецца кантролю.

Але рэч не ў колькасці камп'ютэраў на нашы бедныя душы, а хутчэй у якасці іх уздзеяння на іх. Што нам прынесла камп'ютэрызацыя, чым узбагаціла ці збядніла нашае дагэтуль спакойна-патрыярхальнае жыццё? На гэты конт даводзіцца чуць шмат розных меркаванняў, прычым часам абсалютна процілеглых. Пераказваць іх няма сэнсу, але асноўныя з іх грунтуюцца на наступных тэзах. Першая: камп'ютэр — найвялікшае дасягненне цывілізацыі, якое цалкам зменіць у лепшы бок нашае жыццё, зробіць яго намнога больш уладкаваным і заможным. Другая: камп'ютэр разам з іншымі дабротамі цывілізацыі даканае нас урэшце, высмаліўшы з душы апошнія кроплі спагады, любові, чалавечнасці. Некаторыя выказваюцца зусім пэўна: камп'ютэр і "иже с ним" — штучкі нячысціка, які, не здолеўшы збіць з панталыку прамым наскокам, вырашыў падабрацца праз электронныя хады...

Прычым, апошнія выказванні — зусім не прадукт нейкіх цемрашалаў-клерыкалаў, а пастулаты філасофскіх і духоўных прац вядомых аўтараў, асабліва расійскіх. Яны настойліва папярэджваюць пра смяротную небяспеку татальнай электранізацыі ды і ўвогуле ўсялякай тэхнічнай звышмадэрнізацыі жыцця. Прыводзяцца нават адпаведныя выказванні з Бібліі, напрыклад, пра д'ябальскую метку на чалавечым целе і пра рэалізацыю такога "клеймавання" ў рэальным жыцці. Як гэта, на іх думку зрабілі некаторыя буйныя банкі, якія на запясцях рук сваіх кліентаў літаральна кляймяць сёння электронны код да ўкладаў. Яшчэ дзесятак гадоў таму мы дружна паднялі б іх на смех тых адсталых ад прагрэсу аўтараў, мудра даводзячы пра іх непераадольнае невуцтва. Сёння ўжо многія не смяюцца...

II

Цывілізацыю і тэхнічны прагрэс, вядома, спыніць нельга. Такія працэсы адбываюцца па-за нашымі жаданнямі. Нам застаецца толькі прыстасоўвацца да ўсемагчымых тэхнічных рэвалюцый і спрабаваць знайсці для сябе з гэтага нейкую карысць. Яшчэ гады чатыры таму, калі б мне сказаў нехта, што я буду пісаць не асадкаю, а за клавіятурай камп'ютэра, я, мусіць, палічыў бы гэтага чалавека, мякка кажучы, дзіваком. Камп'ютэр і ўсё, што з ім звязана, падаваўся мне тады калі не абсалютна недасяжным, то, прынамсі, нечым вельмі далёкім, незразумелым і абсалютна чужародным. Я глядзеў на тых, хто працаваў ужо на той час за гэтымі прыборамі, як на інапланецян, у лепшым выпадку — як на нейкую вельмі закрытую касту выбраных, патрапіць у якую не ўяўлялася магчымым. Яны, мне здавалася, ведалі нешта такое, што мне аніяк і ніколі не асіліць і не засвоіць. Я, праўда, і сам тады ў тую касту не вельмі імкнуўся, інтуітыўна адчуваючы ў камп'ютэры небяспечнага ворага, накшталт пачварнага павука, што аблытвае сваёй павуцінай чарговыя ахвяры і потым паціху сілкуецца іх крывёю. Але неўзабаве жыццё літаральна шпурнула ў тую "павуціну"...

Каб сказаць, што мне было ў ёй вельмі няўтульна і непрыемна, то не скажу. Ля гэтай "пачвары" трэ было проста добра пасядзець, каб пазнаёміцца бліжэй. Тое, што гэта сапраўды "пачвара", я зразумеў адразу, бо камп'ютэр з першых жа дзён эксплуатацыі (невядома яшчэ, хто каго эксплуатаваў!) выявіў надзіва моцны і нават наравісты характар. Ён здзекаваўся з "дэбютанта" як хацеў, знішчаючы часам самыя каштоўныя абзацы, а то і ўвогуле цэлыя тэксты, толькі што створаныя ў выніку тытанічнай працы. Мае пачуцці ў тых выпадках перадаць вельмі складана. Адно можна сказаць, што яны былі вельмі бурнымі. І ўсё ж прыцірка характараў паціху адбывалася і ўрэшце мы з "пачварай" калі не пасябравалі, то навучыліся цярпець адно другога.

Напачатку было вельмі складана адразу пісаць на дысплеі і салідную разумную тэхніку я выкарыстоўваў у незайздроснай ролі звычайнай пішучай машынкі, перадрукоўваючы напісанае на паперы. Але паступова галава і рукі неяк прыстасаваліся да замежнага цуда і ўрэшце я навучыўся не эксплуатаваць, а супрацоўнічаць з гэтай, як аказалася, вельмі мудрай і карыснай машынай. Бо камп'ютэр яўна не згаджаўся з роляй пішучай машынкі, а быў здольны на значна большае. Распавядаць пра канкрэтныя зручнасці і ягоную карысць наўрад ці мэтазгодна, з прычыны таго, што пералічыць гэта не хопіць цэлага лімаўскага нумара. Адно трэба сказаць абавязкова: для людзей, якія пішуць прафесійна, — сёння камп'ютэр проста скарб, бо калі навучышся яго паважаць, то ён не згубіць нават літаркі са знойдзеных табою новых слоўных адкрыццяў, дакладна занатуе ўсе твае думкі, якія потым надзіва лёгка сартаваць і пераставіць у належным парадку. Такі "мантаж" практычна немагчымы асадкаю на паперы. Камп'ютэрная памяць захавае ўсё: і новыя радкі вершаў, якія яшчэ не знайшлі сабе кантэксту, і нечаканыя яркія вобразы, што часам імгненна прыходзяць на розум і якія мы звычайна тут жа забываем. Адным словам — не сутыкаўшыся з гэтай тэхнікай, мы нават не ўяўляем сабе патэнцыял сваіх уласных інтэлектуальных і творчых магчымасцяў.

Штучны інтэлект, вядома, рэч вельмі і вельмі своеасаблівая і, што хаваць, неадназначная. Камп'ютэр, бы тая чорная прорва, за пяць-шэсць гадзін безупыннай працы на ім высмоктвае з цябе амаль усе сілы і энергію. Але калі ёсць творчая ўдача і калі камп'ютэр яе надзейна занатуе ў глыбінях сваёй памяці, то энергія тая вельмі хутка ўзнаўляецца. Канешне, як і большасць дасягненняў цывілізацыі камп'ютэр у нечым небяспечны і шкодны. Небяспечнай урэшце можа быць нават звычайная электрычная лямпачка, не кажучы пра пыласос ці прас, не кажучы ўжо пра шкоднасць, напрыклад, тых жа аўтамабільных выкідаў. Каб небяспека і шкода ад усялякай тэхнікі не даканалі нас, неабходна проста навучыцца добра ёю карыстацца. Карыстацца прафесійна і памяркоўна, разумеючы, што лішак заўсёды шкодны. Нават лішні кавалак з'едзенай каўбасы можа чалавека так прыціснуць, што свет у капеечку станецца. Што ж казаць пра суперскладаную тэхніку, якая выкідвае на нас безліч самых разнастайных выпраменьванняў...

III

Між тым камп'ютэрызацыя ўсёй краіны — сёння зусім не ўяўная, а самая што ні на ёсць рэальная рэч. Адступаць, як кажуць, нам ужо няма куды. Раней нас добра падстрахоўвала Масква, а сёння, як мы вышэй адзначалі, у гэтым плане яна не падстрахоўвае. Хутчэй наадварот... Усё болей уладна ўрываецца ў наша жыццё знакаміты Internet. Вось гэта павуціна дык павуціна! У сукупнасці з ТБ, з павуцінай тэлефоннай і радыёсувязі ўсе гэтыя "даброты" цывілізацыі не толькі ўладна канцэнтруюць чалавецтва ў прасторы, змяншаючы да дробязі велізарныя адлегласці, але і становяцца сродкам глабальнага ўздзеяння на свядомасць мільярдаў жыхароў планеты. Прасцей кажучы, нечувана небяспечнай зброяй. Вядомы ўсім прыклад з дзіцячым мульцікам у Японіі, дэманстрацыя якога па ТБ выклікала вокамгненна больш за 600 выпадкаў адначасовага прыступу эпілепсіі ў дзяцей. Гэта хутчэй за ўсё сведчыць, што нехта паціху пачынае такую зброю выпрабоўваць... Дзе ж ратунак?

Каб не заблукаць нам у складанейшых лабірынтах віртуальнай рэальнасці, якую нясе нам камп'ютэрызацыя і іншыя -ацыі, неабходна заўсёды мець у запасе надзейны страхавачны трос, які б даў нам упэўненасць і смеласць ісці далей. Трос гэты — трываласць і цэльнасць нашага ўласнага духу. Камп'ютэр, як і ўсе іншыя дасягненні цывілізацыі, трэба ўмець успрымаць вытрымана, спакойна і, калі хочаце, індыферэнтна. Усё ж такі намнога лепш, калі карыстаемся тэхнікай мы, а не яна намі. Той жа нож становіцца небяспечным толькі ў чалавечых руках. Прычым адносна ў вельмі рэдкіх выпадках. У асноўным у тых руках ён вельмі карысная прылада...

**Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ**

## Знаёмства з Кіраўшчынай

Гарадскі пасёлак Кіраўск — адзін з нямногіх нашых райцэнтраў, якія не могуць пахваліцца сваім узростам. На яго месцы яшчэ ў мінулым стагоддзі знаходзіўся ўсяго-наўсяго маёнтак Качэрычы, што адносіўся да аднайменнай воласці Бабруйскага павета, а з ліпеня 1924 года знаходзіўся ў Старшаўскім сельсавеце Бабруйскага раёна. 12 лютага 1935 года быў утвораны цяперашні Кіраўскі раён, названы ў гонар С. Кірава. Часова раённы цэнтр быў у вёсцы Старшы, якую 20 красавіка 1939 года перайменавалі ў вёску Кірава. Неўзабаве каля вёскі Старшы, на месцы колішняга маёнтка, пабудавалі пасёлак Кіраўск, куды і быў перанесены цэнтр раёна.

Кіраўск малады, але багатая гісторыя тутэйшых мясцін. І ў гэтым можна ўпэўніцца, пазнаёміўшыся з гісторыка-дакументальнай хронікай Кіраўскага раёна, якую ў добра вядомай серыі "Памяць" выпусціла выдавецтва "Вышэйшая школа".

З гэтага выдання даведваемся, што з населеных пунктаў, якія цяпер знаходзяцца на тэрыторыі гэтага раёна, першым упамінаецца ў пісьмовых крыніцах Добасна. Тады яна называлася Дубосна і недзе ў першай трэці XV стагоддзя была падаравана вялікім князем Вітаўтам аднаму з друцкіх князёў Дзмітрыю Сякіры, які, паколькі меў маёнтак Зубрэвічы, што знаходзіўся паміж Друцкам і Оршай, называўся князем Зубрэвіцкім.

З гэтага моманту, калі, канечне, не прымаць пад увагу, што першабытныя людзі жылі тут задоўга да гэтага, і бярэ адлік сучасная Кіраўшчына. Добасна ў 1587 годзе становіцца мястэчкам. У канцы XV стагоддзя ў дакументах упершыню ўпамінаецца маёнтак Любонічы. У 1825 годзе пачалося будаўніцтва знакамітага палаца ў Жылічах.

Асноўныя моманты кіраўскай гісторыі прасочваюцца ў аглядных артыкулах "Зямля нашых продкаў", "У складзе Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай", "Кіраўшчына ў XIX — пачатку XX ст."... Багатыя звесткамі архіўныя матэрыялы, што цытуюцца з першакрыніц. Прыводзяцца вытрымкі з даследаванняў вядомага беларускага гісторыка К. Кернажыцкага аб аграрнай рэформе ў гэтых мясцінах і эканамічным становішчы насельніцтва ў XVIII — першай палове XIX стагоддзя.

Шырока асвятляюцца і іншыя перыяды: рэвалюцыя, усталяванне савецкай улады, калектывізацыя, Вялікая Айчынная вайна, пасляваенны час. І, канечне ж, як і задумвалася серыя "Памяць", падаюцца спісы тых, хто загінуў у баях за Радзіму. Але не абыдзены ўвагай і нявінныя ахвяры сталінскіх рэпрэсій, а таксама юнакі, што склалі свае галовы ў выніку афганскай авантуры. Нямала матэрыялаў, што тычацца культурнага жыцця Кіраўшчыны ў розныя гады, помнікаў архітэктуры. У прыватнасці, падрабязна расказваецца пра ўжо згаданы палацава-паркавы ансамбль у Жылічах — адзін з лепшых ансамбляў на Беларусі. У спецыяльным артыкуле расказваецца пра знакамітага земляка пісьменніка Ядвігіна Ш., тут прапануецца яго апавяданне "Шчаслівая". З сучасных пісьменнікаў называецца У. Саламаха, В. Савіцкі, У. Савіцкі, М. Лук'янаў, Я. Замерфельд. Апублікаваны нататкі пра духоўную спадчыну Кіраўшчыны "Споведзь душы народнай", ёсць падборка персаналій "Летапісцы роднага краю"...

Чарговая кніга "Памяць" — яшчэ адзін крок па выкананні пастановы ўрада Рэспублікі Беларусь аб стварэнні гісторыка-дакументальных хронік усіх рэгіёнаў Бацькаўшчыны.

А. АН-ЕВІЧ

## Мастак і рэжысёр



Уладзімір Матросаў — галоўны мастак Віцебскага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. Аднак яго ведаюць яшчэ і як таленавітага рэжысёра. Сярод найбольш прыкметных пастановак Матросава значацца "Песня пра зубра" М. Гусоўскага, "Багдановіч і час", "Евангелле ад Уладзіміра" і іншыя.

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

РЭЗАНАНС

***Наша рэдакцыя заўсёды вітае, калі надрукаваныя праблемныя матэрыялы набываюць свой працяг, калі з'яўляецца тое, што называюць розгаласам. І чым больш розных думак выказваецца чытачамі, чым палярней гэтыя думкі, тым лепей — значыць, літаратурнае жыццё існуе не толькі ў нашым уяўленні. Пасля таго, як у "ЛіМе" з'явіўся ліст маладога паэта Сяргея Патаранскага і наш адказ яму, у рэдакцыю пачалі тэлефанаваць і дасылаць лісты, проста заходзіць, каб выказаць сваё меркаванне, асобы самых розных узростаў. Адным спадабаўся іранічны тон "водпаведзі", іншыя пакрыўдзіліся за маладога паэта, як за сябе — у асноўным тыя, каго рэдактары "не хочуць прапускаць" на старонкі сваіх выданняў.***

***Праблема друкавання-недрукавання — самая балючая ў літаратарскім коле. Але большасць тых, хто адгукнуўся на публікацыю, усё-ткі разважаюць не пра асабістыя крыўды, а пра праблему. Хаця кожны зноў-такі фармулюе яе па-свойму. Пісьменнік і выдавец Алесь Аркуш, лідэр Таварыства вольных літаратараў, лічыць, што праблема перш за ўсё — у рознай псіхалогіі літаратарскіх пакаленняў. Малады паэт Віктар Жыбуль адвяргае правамернасць узроставага крытэрыю ў адносінах да літаратуры, у прыватнасці, такога касмічнага паняцця, як паэзія. Думаецца, пазіцыя кожнага з аўтараў допісаў заслугоўвае ўвагі.***

# Ці ўлічыць вопыт "Тутэйшых" найноўшая генерацыя?

Праблема змены пакаленняў перыядычна набывае злабадзённасць і завостраную дыскусійнасць. Часцей за ўсё яе актуалізуюць самі прадстаўнікі наймалодшай генерацыі. Так было ў другой палове 80-х, калі літаратурная моладзь аб'ядналася ў творчую суполку "Тутэйшыя" і пачала патрабаваць месца пад сонцам. "Тутэйшаўцы" неслі на грэбнях сваіх хваляў не толькі пену юначых закідаў і крыўдаў (напрыклад, аддаць пад іх "юрысдыкцыю" часопіс "Маладосць", атрымаць некалькі партфеляў у СП, пераразмеркаваць пазіцыі ў тэмплане "МЛ" і ets.), але таксама: новую, антытаталітарную і антыкаланіяльную, эстэтыку; разняволенасць — адсутнасць комплексу правінцыйнай літаратуры (ніжэйшую за сталічную - маскоўскую); спробу парушыць манапалізм СП у літаратуры; прэцэдэнт ажыццяўлення прыватных культурніцкіх ініцыятыў — без дазволу ідэалагічных кантралёраў. Гэта быў важкі ўнёсак у справу будаўніцтва новай культурніцкай сітуацыі. Цяжка абвінавачваць "тутэйшаўцаў" у эгаістычных памкненнях (у той час той-сёй пісаў — моладзь кідаецца "ў рожкі"), іншага варыянту ўваходжання ў літаратуру ў варунках развітога сацыялізму не было. Кволыя спробы наладжвання айчыннага самвыдату яшчэ ў 70-х гадах скончыліся ледзь не палітычнымі працэсамі (справы наваполацкага "Блакітнага ліхтара" і мінскай "Мілавіцы"). Магчыма, калі б "тутэйшаўцам" дазволілі выдаваць свой часопіс і партыя дала б маладым дах і грошы, як некалі "Маладняку" і "Узвышшу", дык бунтары наўрад ці адмовіліся б ад такой спакусы і, зноў-такі, магчыма, не выйшлі б на Дзяды-88, не заняліся б палітыкай. Што было б лепш для суполкі маладых літаратараў, цяжка сказаць. Бо і без "тутэйшаўцаў" Дзяды-88 адбыліся б, і разваліўся б СССР, і ўтварылася б Рэспубліка Беларусь. Самастойная ж праца таварыства, якая супала б з крушэннем таталітарызму, напоўніла б "тутэйшаўскі міф" адпаведным эстэтычным і культурніцкім зместам, сфармавала б уласны корпус тэкстаў. Адзіны выдадзены альманах "Тутэйшыя" (1989, "МЛ") атрымаўся няўдалы — эклектычны, невыразны, без стрыжня і новай эстэтычнай дамінанты. Ці не гэтая няўдача адштурхнула лідэраў суполкі ад далейшага разгортвання праекта пад назовам "Тутэйшыя"? (Кінуліся шукаць вартых тэкстаў — а іх няма.) Па шчырасці, нічога іншага і не магло атрымацца. Новыя тэксты нараджаюцца пры новай культурніцкай сітуацыі, а яна так хутка не ствараецца.

Нягледзячы на прыняты маніфест, большасць сяброў таварыства паставіла перад сабой замалыя (а часам нятворчыя) задачы — выдаць кніжку, уступіць у СП, атрымаць кватэру, уладкавацца ў часопіс, напісаць дэтэктыў і г. д. Іншых мэт ім цяжка было вымысліць, іншыя мэты ў той час маглі выглядаць або задужа фантастычнымі і невырашальнымі, або далёкімі ў часе і вымагаць вялікіх высілкаў нават ахвяраў уласных лёсаў. Першымі ў СП уступілі лідэры: А. Сыс, А. Глобус, С. Сокалаў-Воюш. Новую літаратуру большасць сяброў таварыства вырашыла рабіць на традыцыйных лядах і там перамагчы старое. "Тутэйшыя" памерлі.

Але, як сведчаць законы фізікі, ніякая энергія (памкненні, мары, ідэі) не знікае без следу. Яна заўсёды мае працяг. Працягам "Тутэйшых" стаў шэраг праектаў, здзейсненых былымі сябрамі таварыства, якія не схацелі ісці на традыцыйныя ляды: газета "Наша Ніва", Цэнтр еўрапейскага супрацоўніцтва "ЕўраФорум", Таварыства вольных літаратараў. Менавіта з дзейнасцю гэтых "посттутэйшаўскіх" структур заўтрашнія літаратуразнаўцы будуць звязваць самарэалізацыю пакалення "тутэйшых". Але гэта ўжо будуць іншыя кантэксты, іншыя корпусы тэкстаў, — толькі генетычна роднасныя "Тутэйшым".

Час не стаіць на месцы. Неўзабаве беларуская літаратура дачакалася з'яўлення чарговай генерацыі. На абардаж замка "Прызнанне" пайшлі наймалодшыя харугвы. Яны пачалі "абстрэльваць" не толькі збуцвелы, напаўзруйнаваны палац СП, але і "тутэйшаўскія" фартэцыі. Сяргей Патаранскі ў допісе "Чаму нас не заўважаюць?" ("ЛіМ", 19 чэрвеня) піша: "Чаму ж да такой падзеі, як з'езд Саюза пісьменнікаў, не надрукаваць было артыкул пра маладых, тых, каго заўтра прыйдзецца прымаць у той самы СП, і не даць магчымасць мэтрам пазнаёміцца з імі?.. Бо калі назіраеш за перыядычным друкам, можа падацца, што пасля "тутэйшых" у нас ізноў прабел і нікога няма..." Малады паэт зноў, як дзесяць гадоў таму "тутэйшаўцы", разважае пра немаладосць часопіса "Маладосць", пра няўвагу старэйшых калег да творчых пошукаў моладзі, пра тэмплан "МЛ", пра ганарары і ігнараванне крытыкі, пра завялікую славу некаторых старэйшых (напрыклад А. Глобуса, але малады паэт чамусьці не ўзгадвае, што гэты "тутэйшавец" толькі тры першыя кніжкі выдаў за дзяржаўны кошт і было гэта ой як даўно). Я б не так здзівіўся ад прачытанага, калі б гэта напісаў нехта іншы, каго я менш ведаю. С. Патаранскі меў даўнія кантакты з ТВЛ, друкаваўся нават у тэвээлаўскім альманаху "Ксеракс Беларускі" (вядома, безганарарным), уваходзіў у суполку Бум-Бам-Літ. Магчыма, ён пакрыўдзіўся на сяброў з Бум-Бам-Літа за тое, што яны не ўключылі яго ў альманах "Тазік Беларускі", і вырашыў змагацца за месца пад сонцам на традыцыйных лядах (дзе плацяць ганарары). Бо, далібог, амаль кожны радок ягонага допіса выклікае пасмешку, як выробленне малога дзіцяці. Асабліва камічна выглядаюць яго наскокі на СП. Атрымліваецца — як у жабрака прасіць грошай на "мэрс". Нездарма С. Патаранскі ў сваім допісе цытуе Райкіна, — маналог маладога паэта можна чытаць са сцэны. Пра якое прызнанне рупіцца прадстаўнік найноўшай генерацыі? Хто прызнаў С. Дубаўца, І. Бабкова, В. Мудрова (па-за межамі "тутэйшаўскага" пакалення)? Іх біяграфію вы не знойдзеце ў энцыклапедыі. Ці жаляцца яны на свой гаротны лёс? Чаму б С. Патаранскаму самому не выдаць сваю паэтычную настаўніцу Наталлю Кучмель? (Мне здаецца, гэта ягоны абавязак.) Чаму б яму самому не напісаць пра творчыя набыткі А. Дуброўскага, В. Слінко, Л. Медзіч, В. Акуліч? Пазіцыя С. Патаранскага не толькі смяшыць, але і пужае сваёй бездапаможнасцю, безыніцыятыўнасцю. Няўжо новая генерацыя ненавучаная памылкамі "тутэйшаўцаў"? Няўжо яна не ўзброілася вопытам папярэднікаў?

Новае пакаленне пачало фармавацца некалькі гадоў таму. Адной з прыкмет вылушчвання, гуртавання новай генерацыі стаў адыход моладзі са структур "тутэйшаўцаў". Спачатку моладзь пакінула ТВЛ і стала заснавальніцай Бум-Бам-Літа. Заўважым, што большасць "бумбамлітаўцаў" прайшла тэарэтычнае шкаленне на міжнародных семінарах ТВЛ, у якіх бралі ўдзел вядомыя прадстаўнікі расійскага і ўкраінскага авангарда. Затым прадстаўнікі новага пакалення пакінулі "ЕўраФорум" і цяпер спрабуюць заснаваць свой літаратурны часопіс. Працэс "распаду" нельга ідэнтыфікаваць як дэструктыўны, які сведчыў бы аб кволасці і заняпадзе "тутэйшаўства". Ён паведамляе аб іншым —

КРЫТЫКА

# На крыжы міласэрнасці

Пошук сапраўдных арыенціраў духоўнага развіцця становіцца важнейшай задачай сучаснай літаратуры. Напрыканцы XX ст. вельмі адчувальнай з'яўляецца патрэба асэнсаваць пражытае стагоддзе, усвядоміць, чым яно стала для нас, беларусаў, бо мы ўсё яшчэ "на ростанях", і толькі наперадзе — "пошукі будучыні" і "Млечны шлях". Сучасныя празаікі вялікую ўвагу звяртаюць на асэнсаванне месца і ролі асобных выбітных прадстаўнікоў нашага народа ў яго гісторыі. У прозе пашыраецца жанр гісторыка-манаграфічнага рамана, які, як вынікае з вызначэння жанравай формы, прысвечаны жыццю і дзейнасці пэўнай гістарычнай асобы. Напрыклад, такімі з'яўляюцца раман А. Лойкі "Ф. Скарына, або Сонца маладзіковае", раман А. Дайнекі "След ваўкалака", дакументальная аповесць Э. Ялугіна "Без эпітафіі" і г.д. Раман В. Коўтун "Крыж міласэрнасці", які займае сваё пачэснае месца ў нашай літаратуры, прысвечаны жыццю і дзейнасці Алаізы Пашкевіч (Цёткі), беларускай рэвалюцыянеркі, паэткі, проста самаахвярнай жанчыны. Аўтарка не проста зацікавілася гэтай асобай, але адчула ўнутраную патрэбу ўзнавіць найбольш дакладна карціны складанага жыцця паэткі. Сімвалічна і тое, што менавіта жанчына напісала кнігу пра жыццё і дзейнасць "беларускай Ажэшкі".

Адразу трэба адзначыць, што мастацкі вобраз Алаізы ў рамане прыцягвае ўвагу чытача сваёй сур'ёзнасцю, складанасцю, і твор гэты не для лёгкага чытання. В. Коўтун імкнецца глыбока, падрабязна паказаць працэс станаўлення нацыянальна-рэвалюцыйнай свядомасці Алаізы Пашкевіч. Адсюль пашыранасць такіх мастацка-кампазіцыйных сродкаў і прыёмаў, як унутраны маналог, успаміны гераіні, часам хваравітыя сны-трызненні: "Заплюшчыла вочы і ледзь не ўскрыкнула... З вышыні, з самага, здаецца, неба, павольна гайдаючы вершалінамі, да яе пачалі нахіляцца вялікія разгалістыя дрэвы з дробненькімі, як мушкі, лісцікамі.

Уздрыгнула ад жаху, але дрэвы ўжо ляцелі некуды ўніз, у нябачную прорву, захопліваючы ў сваё імклівае падзенне цэлыя граі варання і шматы гнёздаў".

Часам узнікае адчуванне, што амаль уся кніга — гэта кніга сноў Алаізы, яе ўнутраных пошукаў ісціны, адказаў на праклятыя пытанні веку: "Адно не разумее і цяпер Алаіза, навошта ёй, той малалетцы Лёдзі з яе школкі, выпала цярпець пакуты нечалавечыя?! Гэта яны, дарослыя, у грахах жыццё жывуць, і само жыццё, здаецца, суцэльны грэх, пачварная магма слёз, хлусні і пакутлівага поту".

Заслуга аўтаркі і ў тым, што яна імкнецца паступова, крок за крокам паказаць унутраную эвалюцыю сваёй гераіні, выкарыстоўваючы для гэтага невялікія сцэны-эпізоды, як, напрыклад, выступленне вандроўнага тэатра ў Пінску, спрэчка акцёраў: "Закон прыроды? — ускочыў з каленяў Уладзік. А што гэта за такі закон прыроды, калі я не ведаю, нашто мне ўчыцца каструбаватым вершыкам... — Ці-ці-ці! Сказаў як звязаў! Сам жа з тутэйшых і вучыш свае..." Вучу, дзядзечка, вучу. Дурны бо... А ўсе рагочуць! Гы-гы! А скажыце мне, ну чаму я мушу любіць гэтую мужыцкую гаворку, калі самі з яе ўсе і смяюцца?!" В. Коўтун паказвае нам Алаізу ў пару юнацтва, а ўплыў на яе ў дзяцінстве

аб выспяванні новай генерацыі, якая хацела б рэалізавацца самастойна і ўжо аспрэчвае папярэднікаў, каб прышчапіць айчыннай літаратуры свае галінкі. Новае пакаленне, відавочна, імкнецца пазбавіцца некаторых асаблівасцяў "тутэйшаўства". Найперш сацыяльнасці і пагранічча з палітыкай. "Тутэйшыя" пачалі свой маніфест словамі "Літаратура — гэта Бацькаўшчына", і тым самым усклалі на сябе больш шырокія абавязкі, чым толькі слугаванне літаратуры. Для іх літаратура — не толькі гульня ў словы. Дакладней, зусім не гульня. Менавіта таму "Наша Ніва", галоўная ідэалагічная газета пакалення "Тутэйшых", перажывае сёння цяжкія часы.

Аднак, відавочна, пакаленне "Тутэйшых" напрыканцы XX стагоддзя самае моцнае і актыўнае пакаленне ў беларускай літаратуры. Праблемы, якія ўзніклі ў СП, "МЛ" і афіцыйных беларускіх выданнях, іх кранаюць найменшым чынам. Яно гатовае да аўтаномнага плавання, без дзяржаўнай падтрымкі і спадарожнага ветру. Яно мае сваіх лідэраў, сваю іерархію, свае арыенціры, свае выданні, моцныя замежныя сувязі і выхаванага ўласным намаганнем чытача. У гэтым годзе пакаленне "Тутэйшых" у два-тры разы павялічыць колькасць выдаваемых кніг. Сёння пераважна "тутэйшаўцы" прадстаўляюць беларускую літаратуру за межамі краіны.

З усім гэтым горш складваюцца справы ў найноўшага пакалення. Па-першае, яно не мае лідэраў, яны яшчэ не вызначыліся, працэс "іерархізацыі" ў іх зацягнуўся. Па-другое, пакаленне не мае больш-менш супольнай эстэтычнай платформы. Яно пакуль не ведае, чаго хоча і куды яму трэба ісці. Лепш мець не зусім рэальныя задачы, чым не мець ніякіх. Па-трэцяе, пакаленне не мае ніводнага ўласнага выдання (незалежнага, якое не баялася б страціць дзяржаўную датацыю) і таму не можа агучваць сваю эстэтычную палітыку. Пра гэта і трэба было пісаць С. Патаранскаму.

**Алесь АРКУШ**

# Твор і Аўтар: хто пераможа?

Прачытаў у "ЛіМе" за 19 чэрвеня 1998 г. ліст Сяргея Патаранскага "Чаму нас не заўважаюць?" і адказ на яго Людмілы Рублеўскай, і вырашыў таксама падзяліцца сваімі поглядамі на гэты конт. І гэта, наколькі я ведаю, не толькі мае меркаванні.

Не, я не буду зараз спрачацца ні з кім з удзельнікаў дыскусіі. Проста падумалася: а ці заўсёды правамерна ставіць побач такія паняцці, як "паэзія" і "ўзрост" — там, дзе гэта трэба і не трэба? Бо першае ў мяне асацыіруецца з чымсьці вечным і сакральным, другое ж — катэгорыя, якая вызначае часавы стан таго, што з'яўляецца ўсяго толькі матэрыяльнай абалонкай чалавека. Хіба можна адмерваць паэзію па такіх вось грубвастых фізічных крытэрыях? Урэшце, і старыя, і маладыя паэты (калі іх браць пад увагу проста як суб'ектаў) калі-небудзь памруць. З адной толькі розніцай, што адзін — раней, а другі - пазней. А творы — застануцца. І праз шмат гадоў стане зразумела, чые пражывуць даўжэй (ці ўвогуле застануцца бессмяротнымі).

Існуе думка, што сапраўдная паэзія нараджаецца ў космасе нейкім вышэйшым розумам, а паэт выступае толькі ў якасці пасрэдніка, перапісчыка, які даносіць гэтыя тэксты да людзей. І ўзрост гэтага пасрэдніка на творах часта ніяк не адбіваецца. Праўда, чытаючы шмат якія творы, іх "касмічнае" паходжанне можна паставіць пад сумнеў, але тое, што паэзія нараджаецца ў душы, гэта бясспрэчна. А душа, як вядома, нематэрыяльная. Гэта ў паўсядзённым жыцці ёсць маладыя ды старыя, на паперы ж — усе аднолькавыя, і маюць такое ж аднолькавае права на публікацыю, як і права на творчы палёт.

Між тым, некаторыя выданні маюць звычку друкаваць АЎТАРАЎ, у той час як трэба друкаваць ТВОРЫ. Прычым аўтар часам выступае не як творца, а як змагар за друкарскую прастору, і ў якасці аргумента свайго права на публікацыю ставіць узрост. Маўляў, я — сталы пісьменнік, вядомая асоба, паважаны ўсімі чалавек. Ну як жа мяне не друкаваць?! Альбо: я — малады, таленавіты, а мяне ніхто не заўважае. Надрукуйце, калі ласка! Ну а знешні выгляд аўтара (асабліва — узрост!) надае рэдактарам адпаведную псіхалагічную ўстаноўку, ад якой залежыць, колькі часу давядзецца літаратару чакаць сваёй публікацыі і ці дачакаецца ён яе наогул. І рэдактар, можа, тут нават і не вінаваты: нейкі лёгкі недавер да маладога (ці старога) аўтара закрадаецца да яго ў падсвядомасць, і ён (рэдактар) часам гэтага проста не асэнсоўвае. Такая ўжо чалавечая псіхалогія.

І невядома яшчэ, хто каго стварае: ці то аўтар творы, ці то творы аўтара. Асоба творцы стаіць недзе па-за тэкстамі, з'яўляецца своеасаблівым іхнім ценем. Наколькі мне вядома, група нашых беларускіх літаратараў ужо збіраецца зацвердзіць гэтую перавагу Тэкста над Аўтарам на друкарскім узроўні: выдаць альманах мадэрновага накірунку, асобны раздзел якога складуць творы без аўтарства (г. зн. — непадпісаныя), проста творы.

Ну а астатнім, больш традыцыйным, выданням параіў бы: калі творы сапраўды выклікаюць нейкую цікавасць, трэба абстрагавацца ад узросту аўтара, адкінуць убок усялякія прымхі і — друкаваць.

Шкада вось толькі, што народ стаў меней чытаць. А чытаць, здавалася б, ёсць што. Хаця, шчыра кажучы, на адным друку таксама нельга зацыклівацца. Сваё слова можна даносіць і праз песні, і проста праз чытанне са сцэны, і праз малюнкі (візуальная паэзія), і праз "Internet"... Карацей, можна знайсці безліч спосабаў, дзякуючы якім ваша слова будзе прачытаным, прагледжаным, праслуханым, прамацаным, пранюханым і г.д.

Трэба шукаць самыя разнастайныя шляхі ўзбагачэння нашай культуры, каб ніхто не казаў, што яна знаходзіцца ў стане заняпаду. І гэта — праблема не проста маладых і старых. Гэта — праблема ўсяго грамадства.

P.S. Сяргей Патаранскі, віншую цябе з першай кнігай! А яшчэ кажаш, што не заўважаюць!..

**Віктар ЖЫБУЛЬ**

ЧАСОПІСЫ

# Па сцяжынах учарашніх і сённяшніх

А такое падарожжа і запрашае зрабіць рэдакцыя часопіса "Крыніца", прапануючы чытачам чарговы, шосты нумар. Сцяжыны ўчарашнія, калі можна так мовіць, гэта жыццё, лёс і дзейнасць Каруся Каганца. Але ж, несумненна, К. Каганец — і наш сучаснік, бо тое, што пісаў ён, у імя чаго змагаўся, чаму прысвяціў сябе без астатку (таму і "згарэў" рана), — на дзіва актуальнае.

А якія мэты перад сабой ставіў гэты выдатны сын Бацькаўшчыны, відаць ужо з аднаго з найлепшых яго вершаў "Кабзар", які "Крыніца" перадрукоўвае. Ёсць магчымасць пазнаёміцца і з іншымі творамі К. Каганца — артыкуламі "Яшчэ некалькі слоў пра перажыткі паганства ў беларусаў", "З рэферату на Калядны сход Беларускай Грамады 1903 года", "Парада", апавяданнем (таксама адным з лепшых у яго творчасці) "Скрыпач і ваўкі", прытчай "Не той міл Богу, хто многа знае, а той, хто шчыра сэрца к яму навяртае".

Але — пра верш "Кабзар". У ім вельмі моцна гучыць матыў повязі сапраўднага творцы з лёсам Бацькаўшчыны. Кабзар для К. Каганца — і ён сам, які мусіў з цяжкасцю шукаць свой шлях дзеля служэння роднаму народу:

***Ой, вецер шуміць, ой, вецер гудзе,***
***А цераз поле чалавек ідзе,***
***Ой, полем ідзе***
***І штось ён нясе.***
***І хлопец яго за руку вядзе.***
***Ой, праз поле хлопец старца вядзе.***
***Які гэта старац з хлопцам ідзе?***
***То кабзар ідзе***
***І кобзу нясе,***
***А хлопец за руку к вёсцы вядзе.***
***У вёску прыйшоў, на прызбу ён сеў***
***І ціха людзям спяванку запеў,***
***Укруг людзі стаяць,***
***На старца глядзяць,***
***Бо да душы бедным людзям запеў.***
***Галавою добрым людзям кіўне.***
***Грудку старую шырока надзьме.***
***У струны ўтне,***
***Слова дабярэ***
***І песню старую свету пяе.***

Такім Кабзаром і з'яўляўся К. Каганец. Гэткім абуджальнікам народнай памяці, нацыянальнай свядомасці ён застаўся і па сённяшні дзень. А пра месца К. Каганца ў нашым сучасным жыцці, аб тым, як неабходна паважна ставіцца да гэтага выдатнага адраджэнца, гаворка ў артыкулах Л. Ермаловіча "Па сцяжынах Каруся Каганца", А. Марціновіча "Каб ведалі, хто мы такія", Г. Матусевіч — "Вандроўка новых ліцвінаў на старую Беларусь", А. Пашкевіча — "Кроў з крыві беларуса", С. Адамовіча — "Будзіцель". У С. Адамовіча, думаецца, істотнае такое прызнанне: "Ёсць у беларускай літаратуры аўтары, пра якіх я згадваю, каб супакоіцца, калі пачынае заносіць. Сярод іх — Карусь Каганец". А памяркоўнасці ў К. Каганца і трэба павучыцца. Ён, бадай, самы "непрыкметны", калі гаворка заходзіць аб адраджэнскай дзейнасці. "Непрыкметны" ў тым сэнсе, хто ў грудзі сабе не грукаў і кашулю пра гэтым не раздзіраў (а мо таму і не раздзіраў, што яна і так не заўсёды цэлай з-за беднасці была), каб упэўніць, як любіць Беларусь. Любоў да Беларусі К. Каганец даказваў сваімі справамі. Не заўсёды ўдзячнымі, але — гэтак патрэбнымі. І гэтаму якраз і трэба ў яго павучыцца.

А сцяжыны сённяшнія — найперш новая аповесць І. Шамяніка "Няскончаны партрэт". Як заўсёды, адзін з патрыярхаў нашай літаратуры высока трымае планку мастацкасці. І застаецца адданым уласнаму погляду на сучасныя з'явы і падзеі. Рэжа праўду-матку ў вочы. Не сумняваюся, знойдуцца і пасля прачытання гэтага шамякінскага твора такія, хто пагардліва скрывіць вусны: маўляў, колькі можна выкрываць сучасных "дэмакратаў"? А таму і трэба выкрываць, каб былі не "дэмакраты", а дэмакраты. Але апошніх, чамусьці, мала водзіцца. Болей тых, пра каго адзін з галоўных герояў аповесці Раманіст гаворыць так: "У латыні ёсць слова апастат: той, хто аплёўвае тое, чаму пакланяўся. Нашы мудрыя продкі адступнікаў палілі на кастрах... А мы робім іх героямі. Рэнегацтва стала доблесцю". Рэзка сказана, але праўдзіва. Ды і ўся аповесць І. Шамякіна вытрымана ў такім тоне. А чытаеш яе з захапленнем. І дзякуючы псіхалагічна выразным вымалёўкам асноўных персанажаў. І, канечне ж, шамякінскаму ўменню чарговы раз у добрым сэнсе "закруціць" сюжэт.

Сённяшнія сцяжыны — і творчасць Янкі Юхнаўца. Таго самага, што жыве за мяжой. Толькі не трэба, шаноўныя "выкрывальнікі", хапацца за пёры, каб падымаць гвалт. Я. Юхнаўца юнаком вывезлі ў Германію. А бацьку і братоў забілі. "Зацемкі розных гадоў" Я. Юхнаўца цікавыя тым, што ў іх знайшлося і месца для ацэнкі творчасці асобных беларускіх пісьменнікаў.

Пра І. Шамякіна, дарэчы, Я. Юхнавец такой думкі: "...я памыляўся, калі казаў адмоўна пра некаторых беларускіх пісьменнікаў, у асаблівасці пра Шамякіна. А ён дайшоў далёка да свайго сваявольства — любіў чалавека, што дазваляла камуністычная "апрабэйшан". У будучыні перачытаем Шамякіна "Сэрца на далоні".

А гэта ацэнка І. Пташнікава: "...Пташнікава люблю. Напісаў, выказаў пашану да беларускай мовы. Бажавольныя, псіхалагічныя паводзіны герояў у ягоных творах, падобныя як у французскага Пруста. Бачыць даверлівасць чалавека да чалавека ўва ўсялякіх напатканых наканаваннях. Усё падходна да ўсякіх захаванняў чалавека. У дыялогах ягоныя героі пад міласцяй Боскай у скратнай "добрасці" сацыяльна-марксісцкага бытавання".

І пра Р. Барадуліна пераканаўча: "...самы праўдзівы тварэц рыфмаў у нашай сучаснай паэзіі — Р. Барадулін. У ягоных творах рыфмы твораць зачэпкі, каб працягваць верш. Не гэтак, як у мяне ўнутраныя сугуччы ў вершах выцягваюць параўнанні думак-асацыяцый. Р. Барадулін не можа расстацца з рыфмамі й разнавідамі тэматыкі. За гэта я люблю яго".

І "Зруб" Р. Тармолы-Мірскага — таксама роздум. Паэтычны, грамадзянскі. І пра наш час. І пра ўсіх нас. І пра пісьменніцкую брацію. Можна не ўсё ўспрымаць. Але тут, як і ў выпадку з аповесцю І. Шамякіна; навошта на люстэрка скардзіцца, калі...

**Антось НІЧЫПАРУК**

бабкі Югасі і бацькоў згадваецца рэтраспектыўна, праз успаміны. Гэта і справядліва: найбольш актыўнае жыццё юнацкае, калі ідзе праверка на трываласць духоўных асноў, закладзеных у маленстве. Алаіза, як паказвае пісьменніца, цвёрда трымаецца дарогі, падказанай у многім старым Гаўрам, "гінжалам", удзельнікам паўстання 1863 г., Тацішчавай, бацькамі.

Эпізод з літаратаркамі ў доме Івона Кірылавіча, размова на вечарыне ў сіроцкім прытулку, фальш у стаўленні да народа, да яго праблем, выразная пазіцыя Магдалены Радзівіл: "Паненачкі з курсістак пакуюць у капялюшныя каробкі карамелі і пахучае мыла і едуць, бачыце, на "голад"... — усё гэта ўздзейнічае на асобу дзяўчыны. Алаіза Пашкевіч паступова пачынае разумець двудушша грамадства, ненатуральнасць паводзін прадстаўнікоў яго эліты. Паэтка сустракае розных людзей на сваім жыццёвым шляху: Вера Тацішчава, яе першая настаўніца, Прозарава, Ажэшка (вельмі многа Алаізе дала гэтая сустрэча), вучоба на курсах Лесгафта і г.д. — усе яны, паказвае Валянціна Коўтун, непасрэдна ўплывалі на фарміраванне светапогляду будучай рэвалюцыянеркі. Несумненна станоўчым момантам твора з'яўляецца і дэталізаванае ўзнаўленне атмасферы жыцця Паўночна-Заходняга краю, Пецярбурга на пераломе XIX—XX ст. Напрыклад, цудоўна паказвае духоўную еднасць Алаізы з дзеячамі беларускай і польскай літаратур сцэна сустрэчы Алаізы Пашкевічанкі і Элаізы Ажэшкі, сур'ёзная размова аб творчасці і, самае важнае, сам факт перадачы зборніка Ф. Багушэвіча, падараванага "пані Арэшчысе" паэтам, будучай беларускай паэтцы-рэвалюцыянерцы. Эпізод гэты мае сімвалічны змест: з рук Ажэшкі атрымала беларускае слова Пашкевічанка, якая і стане, ці не пад уздзеяннем менавіта гэтай кнігі, беларускай "каралевай жывога слова і пакутлівай праўды". Калі гаварыць традыцыйна аб Ажэшцы як польскай пісьменніцы, то відавочны сэнс: значным з'яўляецца ўплыў польскай літаратуры на беларускую, пры гэтым трэба яшчэ памятаць, што беларуская і польская мовы ў асяроддзі дробнай і сярэдняй шляхты суіснавала досыць доўга, і ў гэтым суіснаванні бачыцца і станоўчы момант. Ажэшка заахвочвала Багушэвіча да напісання па-беларуску літаратурных твораў.

Твор цікавы яшчэ і тым, што пісьменніца, ствараючы вобраз Алаізы Пашкевіч, не пазбягае паказу і інтымна-жыццёвых сітуацый: каханне да Андрэя Гмырака, знаёмства і сустрэчы з Кейрысам. Дзяўчына паўстае перад намі ўражлівай, добрай, самаахвярнай. Для яе мала быць проста жанчынай, ёй важна знайсці адказы, поўныя і грунтоўныя, на пытанні жыцця, яго сэнсу. Як павінна жыць жанчына? Што павінна рабіць у час вялікіх узрушэнняў? Нейкімі патаемнымі духоўнымі сувязямі звязаны лёс Алаізы Пашкевічанкі з жыццём і дзейнасцю Ефрасінні Полацкай, Саламеі Пільштыновай, Элізы Ажэшкі і іншых знакамітых жанчын нашай зямлі.

Імкнучыся поўна, усебакова паказаць характар гераіні, варункі і шляхі яго загартоўкі, пісьменніца ўводзіць Алаізу ў розныя сітуацыі, сутыкае яе з рознымі людзьмі: студэнтамі, жандарамі, прафесурай Пецярбурга.

Вось у такім калейдаскопе асоб і падзей у Вільні і Пецярбурзе фарміравалася тая Цётка, якая адкрыта скажа сваё паэтычнае беларускае слова ў падтрымку рэвалюцыі 1905-07 гадоў. Важную, несумненна, ролю адыграла ў станаўленні Алаізы як паэткі знаёмства з Юхневічам, са Свянціцкім. Вялікае ўражанне зробіць на Алаізу чытанне яе ўласных вершаў прафесарам Юхневічам. Таксама важна згадаць і тое, што Цётка (тады яшчэ Алаіза, але з лёгкай рукі Вацака ўжо і "цётка") удзельнічала ў арганізацыі выдання газеты "Свабода", і імя Алаізы паступова пачынае трапляць у жандарскія данясенні.

Валянціна Коўтун цудоўна ўпісала вобраз Алаізы Пашкевіч у кантэкст эпохі, адлюстравала востры канфлікт моладзі, гэтай будучыні любой нацыі, дзяржавы, з кансерватызмам паступова дэградуючай дзяржаўнай машыны Расійскай імперыі.

Выразна адчуваеш, як у тагачасным жыцці маладым, разумным, сапраўдным інтэлігентам не хапае "свежага паветра". Фінальная сцэна першай кнігі — паводка ў Пецярбурзе — мае, на нашу думку, таксама сімвалічны змест. Вось яна, стыхія, якая змятае ўсё на сваім шляху, вось яно, "мора", якое "вуглем" стане і "скалы пазрывае"! Але ж гэтая стыхія паўстае перад Алаізай і ў крывавым абліччы: "Ад промняў блізкага сонца вада навакол зрабілася барвоваю, і Алаізе раптам здалося, што ўся гэтая паводка налілася крывёю..."

"А разоры стаяць поўныя крыві...". Не ўсе здольны на такую самаахвярнасць, і таму гэта шлях моцных, такіх, як Алаіза Пашкевіч.

У нашай літаратуры з'явіўся яшчэ адзін буйны празаічны твор, які справядліва аднесці да гісторыка-дакументальнай літаратуры. У кнізе цудоўна сінтэзаваны мастацкі вымысел, уяўленне пісьменніцы і дакументальныя звесткі. Хацелася б, каб кніга была прачытана і ацэнена і крытыкай, і чытачамі.

**Алесь ГУРЫНОВІЧ,**
**аспірант БДПУ імя Максіма Танка**

*Не нейкі бізнесмен багаты*
*Прыносіць зорнае святло.*

*І пачуццё сваё ў скарбонку*
*Ты не хаваеш ад людзей, —*
*А сам любімую старонку*
*Якойсьці ўзрадуеш з падзей.*

## Рахунак зробленаму

*Свае няўдачы й перамогі*
*Я на лічыльніку падбіў.*
*Здаецца, спіс удач нямногі —*
*Усіх, што за жыццё зрабіў.*

*Я дрэва пасадзіў і хату*
*Сабе і дзецям збудаваў.*
*Пусціў у грудзі кулю кату,*
*Які нявольніц гвалтаваў.*

*Шмат твораў, што душою песціў,*
*Благаславіў у даль дарог.*
*Але сваёй найлепшай песні*
*Ўсё ж напісаць пакуль не змог.*

## Балада пра жменьку зямлі

*Шмат год не ведала нічога*
*Дачка пра бацьку пра свайго.*
*Не прынясла з вайны дарога*
*Нат пахаванкі пра яго.*

*І жонка дачакацца мужа*
*Ўжо ні адкуль больш не магла:*
*Дачасна хвораю — ды мужнай —*
*У родную зямлю злягла.*

*І вось аднойчы з вёскі ў вёску*
*Дачка да родзічаў другіх*
*Ішла. І ўчула пагалоску*
*З палеткаў родных, дарагіх.*

*Стаіць каля магілы брацкай, —*
*І кажа ціха сэрца ёй:*
*"Паміж байцоў твой родны бацька*
*Ляжыць, засыпаны зямлёй..."*

*Хто боль цяжкі мог успрымаці*
*Гаротней ад дачкі самой?*
*Даведацца пра бацьку, маці*
*Прасіла летам і зімой.*

*Вакол шуміць свет не маленькі.*
*Дачка — хай бачаць людзі ўсе —*
*Салдату-бацьку жвіру жменьку*
*З магілкі матчынай нясе.*

*Ідзе сцяжынай палявою,*
*Дзе некалі палаў агонь.*
*Зямля бацькоўскаю крывёю*
*Ёй апякае ўсю далонь.*

## Твая паэзія

*Яна ва ўсе часы нятленна*
*Святло душы тваёй дае,*
*Прыходзіць да цябе імгненна,*
*Калі і не чакаў яе.*

*Паэзіі ты чуеш гукі,*
*Як сэрца ўласнага быццё.*
*Яна — плод мудрае навукі,*
*Ў якой сваё ёсць адкрыццё.*

*Не трэба ёй чыны і званні,*
*Не любіць надта гучных слоў.*
*Яна заўжды ў процістаянні*
*Стаіць вышэй тупых галоў.*

*Не просіць верш твой, каб паэтам*
*Цябе хтось гучна называў,*
*А проста, шчыра з усім светам*
*На роднай мове размаўляў.*

*Паэзія малітвай божай*
*Гучыць у пошуме бароў:*
*Яна падслухаць словы можа*
*Ў гамонцы рэчак і вятроў.*

*Твая паэзія нікому*
*Непадуладна, як сам лёс.*
*Яна — сястра вясны і грому,*
*Праменю сонечных нябёс.*

---

*А я ўсё быццам без турбот, —*
*рад, што жыву не толькі хлебам,*
*што паміж мной і гэтым небам*
*няма ніякіх перашкод.*

*Вось і пагляд, скрозь цішыню*
*быць перастаў ужо сабою, —*
*я пазіраю вышынёю*
*у векавую вышыню.*

*О Божа, што за здзіў начны?*
*Чым я вышэй — тым неяк ніжай.*
*Хоць неба відавочна бліжай,*
*а холад — ўсё-такі зямны.*

●

*Перад людзьмі, бадай што, не,*
*а перад Богам — грэшны, грэшны.*
*Ужо ў свядомасць змрок імкне —*
*святло завесіў боль бязмежны.*

*Як часта каверзная плоць*
*сабой душу маю даймала...*
*Даруй, Прасветлы мой Гасподзь,*
*блюзнерыў я ў жыцці нямала.*

*Лічыў: усё, што ёсць ва мне,*
*належыць гэтым простым людзям.*
*Я ведаў, што ў зямлі, ў труне*
*мы ўсе звычайным прахам будзем.*

*Заўжды я людзям спачуваў,*
*а не Табе... Гасподзь высокі,*
*даруй за гэта. Ды я стаў*
*і перад імі грэшны ўсё-ткі.*

*І сораму ўжо засціць боль, —*
*сам стогне, плача распачліва...*
*Ды кружыць за акном анёл,*
*чакаючы цярпліва.*

●

*Госпадзі, і я калісьці жыў!*
*Радасна і плакаў, і смяяўся.*
*І мая дарога без мяжы*
*на чатыры стараны вілася.*

*Травы так хаваліся ў стагі,*
*і зіхцелі высі так ва ўздыме.*
*Рэкі гэтыя, гаі, лугі —*
*Божа, і яны былі маімі.*

*Ў надвячоркавы, кароткі час*
*ценька перагукваліся птахі...*
*І сцякаліся ўва мне штораз*
*ах, якія водары і пахі.*

*Набывалі, трацілі няўзнак*
*сэнс гады і нейкія памылкі...*
*Ах, жанчына светланосна як*
*раскрывала мне свае абдымкі!*

*Ўсё было і жартам, і ўсур'ёз.*
*Вечнасці хацелася маліцца...*
*Ад праменняў сонца і ад слёз*
*ўспыхвала вясёлка-весяліца...*

*Госпадзі, і я калісьці жыў!*

**Пераклад з рускай мовы**
**Соф'і ШАХ**

---

Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ

## На праспекце Скарыны

*Даўно не была на праспекце.*
*І вось я вітаюся з ім.*
*Паўстаў ён у іншым аспекце,*
*У новым абліччы сваім.*
*Змяніліся назвы, вітрыны,*
*Іх столькі на мове чужой —*
*На слынным праспекце Скарыны,*
*Здаецца, што я за мяжой.*
*Становіцца ніякавата.*
*Бяжыць па душы халадок:*
*Адчула сябе вінаватай —*
*"Заходнім" стаў родны куток.*
*Не здраджу свайму я сумленню,*
*Ніхто мяне не папракне:*
*Ад многага я ў захапленні*
*І многае вабіць мяне.*
*"Пачуць бы..." — шапчу, як замову.*
*Увагу напружваю, слых —*
*Не "ловіцца" роднае слова",*
*Не чуць беларусаў маіх.*
*Даруйце і вы, і ўсявышні —*
*Такія пачуцці былі:*
*Адчула на міг сябе лішняй,*
*Чужой на радзімай зямлі.*
*Іду я да Янкі Купалы:*
*Ад бураў налётных, завей*
*Мо папараць-кветка завяла?*
*Не! Дзякаваць Богу, — жыве!*

## Фальшывая каралева

*Дзяўчына курыць цыгарэту,*
*Ёй на прыстойнасць "напляваць".*
*А побач з ёй юнак "адпеты"*
*Яе імкнецца абдымаць.*
*З пустой, пакорлівай усмешкай*
*Яна хінецца да яго.*
*"Прэстыжна" быць "пачатай", грэшнай,*
*У ролі Сюзі ці Марго.*
*Яе не спыняць слёзы маці*
*І бацькаў змучаны пагляд:*
*"Пазбавіць доктар ад дзіцяці.*
*Ёсць дзетпрыёмнік, інтэрнат.*
*"Круці" направа і налева.*
*А там і баксы пацякуць"...*
*Ах, каралева, каралева,*
*Спяшайся "тытул" свой вярнуць.*

---

ПРОЗА

Іван СІНЯЎСКІ

# ГАРМОНІК

БЫЛЬ



НА ЧЫГУНАЧНЫМ прыпынку — невялікае цаглянае збудаванне. Пасажыры, чакаючы электрычку, хаваюцца тут ад дажджу і моцнага ветру.

Цяпер пад навесам пуста. У адчыненым акне касы таксама нікога не відаць.

Стаіць бабіна лета. Паблісквакоць на сонцы рэйкі. Абапал паўстанка — кусты бэзу ўперамешку з ажынай і дзікай шыпшынай. На іх не варушыцца ні адзін лісцік.

За чыгункай, на невялічкім пагорку, што паміж паўстанкам і вёскай, застыла некалькі высозных ліп. Пад імі ў пяску купаюцца куры.

Белаватая смуга вісіць над вёскай. Неба нерухомае, светла-блакітнае, высокае, і калі доўга ў яго ўглядацца, яно здаецца яшчэ вышэй.

Справа шэра-зялёнае поле паўзе кудысьці да гарызонту. Каля кустоўя, на доўгай лаўцы, пафарбаванай у зялёны колер, сядзяць салдаты. У іх расшпіленыя каўняры гімнасцёрак, шапкі-афганкі. Яны слухаюць, як іграе на гармоніку іх сябар — ёмка складзены чарнявы салдат.

У зыбкім мроіве плывуць гукі песні "Праважала маці сына". У гарманіста сур'ёзны погляд. Ён іграе і спявае:

*Праважала маці сына*
*У бой вялікі, важны.*
*Праважала і казала:*
*— будзь, сынок, адважным!*

Сябры чарнявага салдата сур'ёзныя, задуменныя. Гарманіст на хвіліну змаўкае, насоўкай выцірае пот з шыракаскулага твару. Потым зноў яго пальцы на перламутравых клавішах гармоніка:

*Каты лютыя напалі*
*На родныя землі.*
*Залатых калоссяў хвалі*
*Памялі і сцерлі.*

А непадалёк стаіць бабуля з кошыкам у руках. Яна вяртаецца з лесу, з грыбоў. Убачыла салдат, прыхінулася плячом да сцяны і стаіць ужо з паўгадзіны, калі не больш, слухае, як іграе гармонік, як спявае салдат:

*Папалілі нашы вёскі,*
*Гарады разбілі.*
*Над народам нашым вольным*
*Здзекі ўчынілі...*

І прыгадалася старой, як шмат гадоў таму назад, яна, тады маладая маці, праводзіла на вайну свайго сыночка Віцьку.

...Таксама канчалася лета. Поле скрозь было пажата. У тую восень рана стаў жаўцець і асыпацца лес. Яе Віцьку тады толькі-толькі споўнілася васемнаццаць гадкоў. Але ён быў рослы, плячысты, як і гэты гарманіст, і таксама ўмеў іграць на гармоніку.

Дужа цяжка было ёй адпраўляць на вайну свайго галубка, крывінку сваю. Замірала сэрца, тужліва было ў грудзях. Здаецца, лепш бы ёй самой праваліцца скрозь зямлю на векі вечныя, чым разлучацца з сынам. Гэта ж столькі клопату мела яна з ім! Не было Віцьку і двух гадкоў, як не стала яго бацькі. Жарабец капытом ударыў яго ў скроню, і ён памёр. Віцька ў дзяцінстве быў кволы, часта хварэў. Ох і нацярпелася яна з ім бяды-гора! А колькі слёз праліла, колькі бяссонных начэй правяла! Ніхто тады не бачыў, як ёй адной цяжанька было яго гадаваць. А вырасціла — і аддала. Вайне былі патрэбны салдаты. Як бы адгадваючы бабуліны думкі, чарнявы салдат спявае:

*А за гэта гадам лютым*
*Заплаціць патрэбна...*
*Каб ніколі больш пакуты*
*Наш народ не ведаў...*

"Але, дзіцятка, каб пакуты наш народ не ведаў", — шэпча бабуля. І зноў замірае. Усё слухае, слухае... І мроіцца старой, быццам бы перад яе вачыма сынок Віцька: боты гармонікам, блішчаць на сонцы, у руцэ — рэчавы мяшок. На твары — усмешка. "Бедненькі, не хоча маці засмучаць", — думае яна. А ў самой слёзы бобам сыплюцца. "Сынок, сыночак... Ты ж сцеражыся. Пад кулі не лезь. Я дзень і ноч маліць Бога буду і цябе чакаць, галубок мой ненаглядны, сонейка яснае..." А ён: "Добра, матуля. Буду сцерагчыся. Ты ж у мяне адна-адзінюткая, і я абавязкова вярнуся..." Моцна абдымае маці, цалуе і спяшаецца стаць у строй, дзе такія, як ён, навабранцы. Адыходзячы, кажа: "Мама, гармонік нікому не аддавай. Вярнуся — весяліць цябе буду".

Але ж не вярнуўся яе галубок, сонейка яснае. Праклятая вайна забрала яго. Недзе пад Варшавай злажыў ён галаву... Так і не ведае яна, дзе пахаваны яе сынок Віцька. А яго гармонік усё яшчэ ў куфры. Як памяць, як рэліквія.

Чарнявы салдат, скончыўшы песню, сказаў:

— Спяваў вам, сябры, любімую песню майго дзеда, які ў мінулую вайну быў камандзірам партызанскага атрада.

Схіліў галаву да чырвоных мяхоў гармоніка і зноў зайграў. Цяпер нешта накшталт паходнага маршу. Бабуля чуе гэтую музыку ўпершыню. Яна стомлена глядзіць на гарманіста. І не зразумець ёй, чаго ў музыцы больш: весялосці або смутку-тугі, як у яе самой?

Сядзяць на зялёнай лаўцы салдаты. Дымяць папяросамі, нічога не заўважаючы і не бачачы перад сабой. Раптам гарманіст пачынае "Лявоніху"... Нясуцца раздольныя гукі да самай вёскі. "Іграе, як некалі мой Віцька", — думае бабуля.

...Набліжаючыся да паўстанка, сіпатым голасам азвалася электрычка. Гукі гармоніка імгненна абрываюцца. Салдаты ўскокваюць з лаўкі, кідаюць папяросы, збіраюцца ў групу і строем крочаць на перон.

Нядоўга працягваецца пасадка. Электрычка зноў дае сігнал. вагоны ўздрыгнулі і паплылі...

На паўстанку і ля яго стала пуста і ціха. Толькі бабуля ўсё яшчэ стаяла ля бэзавага, уперамешку з ажынай і шыпшынай, зарасніку і глядзела туды, дзе нядаўна сядзеў на лаўцы і іграў на гармоніку чарнявы салдат.

"Дзякуй табе, салдацік, за музыку. Праз яе я пабывала са сваім сыночкам..." Затым жанчына паглядзела ў свой кошык: на дне было каля дзесятка сыраежак, два падасінавікі і баравічок. "Сёння будзе чым вячэраць. А заўтра?.. Капейкі за душой няма шака. А пенсія яшчэ няскора. І дроў нямашака, каб паліць у печы. А як жыць?.."

Старая ўздыхнула і, абапіраючыся на сукаваты кій, паклыпала да высозных ліп, пад якімі ў пяску ўсё яшчэ купаліся куры.

"Віцькаў гармонік аддам суседскаму Ігарку. Хай моладзь весяліць", — вырашыла яна і павольна пайшла да хаты.

## Кансервацыя парадыгмы

**Яшчэ ў папярэдніх сваіх кнігах "Кавалёк — лесавая былінка" (1988), "Цяпло чужога сэрца" (1990) і іншых празаік Уладзімір Саламаха выявіў сябе сапраўды "народным" пісьменнікам, — адзначаю гэта не па колькасці, адметнасці, важкасці, а па блізкасці аўтара да тых "маленькіх" людзей, якіх ён апісвае ў сваіх творах, людзей, якім спачувае шчыра і без снабісцкай адхіленасці.**

**Зноў упэўніўся ў гэтым, калі прачытаў яго новую кнігу, якая нядаўна выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" і якая называецца "Апазнаецца асоба мужчыны".**

**Аўтар — не навічок у прозе і тым больш не навічок у вышэйабазначанай мной "народнай" плыні ў літаратуры. Традыцыі яе ідуць ад Ф. Дастаеўскага, К. Чорнага, Д. Прыстлі і іншых пісьменнікаў. Успомнім "Бедных людзей" Дастаеўскага, ці "Шынель" Гогаля, персанажаў А. Чэхава і г.д., — усіх бясконцых "маленькіх" людзей, якія выкрышталёўваліся ў рэальнасці і набывалі яе на старонках твораў. Жыццеапісальнікам такіх персанажаў праяўляе сябе і У. Саламаха. Сам прайшоўшы нялёгкую школу жыцця, папрацаваўшы і лесарубам, і рабочым на фабрыцы, і рэпарцёрам у раёнцы, ён дасканала ведае "маленькага" чалавека, стаіць блізка да яго, іншым разам занадта блізка, а каб такое пісаць, трэба мець своеасаблівы талент. Часам ад такой блізкасці становіцца вусцішна, не па сабе, бо хто яшчэ стане апісваць з самымі натуралістычнымі падрабязнасцямі залатаную вопратку, цэлафан на нагах, каб не мерзлі, юшку з карасікаў, каб не памерці з голаду, і холад, і адзіноту? Нібы праз павелічальнае шкло ўзіраецца пісьменнік у кожны, самы нязначны душэўны рух сваіх непажаданых у гэтым свеце персонаў, у гэты кішачы міязмамі і маразмам мікракосм, у гэтае Дантава мікрапекла.**

**Герой аповесці, якая дала назву кнізе, не мае нават імя, прозвішча. Ён — Чалавек. Прычым, як і герой расійскага пісьменніка У. Маканіна — чалавек, які ўцякае. Адзначаны своеасаблівай пячаццю, ён непахісна нясе яе ад нараджэння і да смерці. І хаця ён і не уайт-трэш ( не"белае смецце" — тэрмін, якім характарызуюць тых белых людзей, якія апускаюцца на самае дно), і нават не звычайны няўдачнік, тая пячаць быццам пазначыла яго ад нараджэння і стала прычынай усіх яго бед і няўдач. Што ж гэта за пячаць? Адкажам прама — асабістае сумленне. Вось той тормаз, які не дае ўзляцець "маленькаму" чалавеку У. Саламахі. Назіраючы за яго жыццёвым варушэннем, якое нагадвае варушэнне хворай рыбіны ў вадаёме, дзе поўна драпежнікаў, не сумняваешся — фінал прадвызначаны. У гэтым прыблізна ракурсе чытаецца і другая аповесць — "Перакулены свет" адметнасць якой — таксама існаванне ў прасторы агрэсіўнага асяроддзя, абцяжаранага яшчэ ідыятызмам вясковага побыту. У. Саламаха памайстэрску абазначае "варушэнне" свайго "маленькага" чалавека сярод іншых (успомнім, што па Сартру — гэта і ёсць сапраўднае пекла), яго страхі, комплексы. "Ён стаў падазроным да кожнага незнаёмца, нават пачаў баяцца людзей, асабліва дзе з кім больш моцным сутыкаўся ў бязлюдных месцах..."; "...свет для яго нібы разламаўся на дзве няроўныя часткі: светлую і цёмную. Але чарнаты неймаверна больш — агромністая частка свету. Яна паўсюль, зацягвае сабой усё. А святло — толькі дзе-нідзе, ды і то вельмі далёка, асабіста ад яго. Пра добрае думаецца, як пра даўно мінулае, нават не рэальнае. Але што мінулася — не вернецца. Яно слаба пакалыхваецца, быццам у туманным мроіве".**

**"Варушэнне" "маленькага" чалавека праходзіць у спрадвечным супрацьстаянні з дробнымі ці больш важкімі агрэсіўнымі існасцямі: з уладумаючымі, з тымі, хто не абцяжарвае сябе, азіраючыся на маральнасць і г.д.**

**Нічога істотнага не змянілася, нібы сцвярджае аўтар. Адбылася хіба што кансервацыя існуючай парадыгмы. Мадэль жа "канца" нашага лакальнага свету засталася і існуе ва ўсіх вымярэннях.**

**Я ведаю, што аўтара чытаюць і паважаюць не толькі на яго роднай Магілёўшчыне: мо таму яго кніга, выдадзеная, дарэчы, сціплым тыражом у 1000 асобнікаў, хутка разышлася і набыла свайго чытача.**

**Юры СТАНКЕВІЧ**

ЭСТРАДА

***Аднаму са старэйшых майстроў беларускай эстрады, заслужанаму артысту рэспублікі Мікалаю Мікалаевічу ШЫШКІНУ нядаўна споўнілася 80. Імя нашага цудоўнага канферансье, нязменнага вядучага канцэртных праграм 50—70-х гадоў не сыходзіла з афіш і карысталася незвычайнай папулярнасцю сярод прыхільнікаў "лёгкага" жанру на ўсёй прасторы былога Саюза.***

***Я сустрэўся з М. Шышкіным, якога даўно добра ведаю, каб разам пагартаць старонкі яго творчай біяграфіі і выклікаць сябра-юбіляра на сумесную размову пра сённяшні стан нацыянальнай эстрады.***

# Адчыні людзям сэрцы!..

**— Перш за ўсё дазвольце, Мікалай Мікалаевіч, шчыра павіншаваць вас са слаўным юбілеем! І — традыцыйнае пытанне: як прыйшлі ў мастацтва і сталі эстрадным артыстам? Дзе і ў каго вучыліся акцёрскаму майстэрству?**

— Нарадзіўся на Гомельшчыне. Бацька мой, Мікалай Іосіфавіч, спрактыкаваны садавод-агароднік, яшчэ да вайны праславіўся на ўсю Беларусь сваімі вельмі добрымі ўраджаямі садова-агародных культур. Але я не пайшоў па бацькоўскіх слядах, бо з юнацкіх гадоў марыў прысвяціць сваё жыццё мастацтву. Меў неблагі ад прыроды пастаўлены голас і схільнасць да акцёрскай ігры.

Калі ў Гомелі ў 30-я гады пачаў працаваць калгасна-саўгасны тэатр, а пры ім была арганізавана драматычная студыя пад кіраўніцтвам найвыдатнейшага рэжысёра-педагога Еўсцігнея Афінагенавіча Міровіча, мне пашчасціла стаць вучнем ягонай студыі. Заняткі ў ёй, разлічаныя на аднагадовую вучэбную праграму, давалі толькі першапачатковыя асновы тэатральнага мастацтва. І трэба было загадзя думаць, што рабіць далей...

Неяк на гастролі ў Гомель прыбыў Беларускі тэатр оперы і балета. Міровічу захацелася паказаць найбольш здольных сваіх гадаванцаў знакамітай ужо тады опернай спявачцы Ларысе Александроўскай. Тая пасля прагляду работ студыйцаў адразу параіла Шышкіну і двум яго таварышам (Лазараву і Ліпніцкаму) ехаць у Мінск, каб прадоўжыць акцёрскую адукацыю ў спецыяльнай навучальнай установе. І неўзабаве гомельскі юнак апынуўся ў сталіцы. Па рэкамендацыі Л. Александроўскай ён нейкі час працаваў на опернай сцэне як артыст міманса, а потым здаў уступныя экзамены ў Рэспубліканскае тэатральнае вучылішча і быў залічаны ў акцёрскі клас вядомага рэжысёра М. Зорава.

— На жаль, атрымаць дыплом гэтага вучылішча мне не давялося: з другога курса за год да вайны прызвалі ў армію і накіравалі ў Брэст, — працягвае М. Шышкін. — Вайсковую службу праходзіў у 33-м інжынерным палку, што размяшчаўся на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці. Любоў да мастацтва і тут не пакідала мяне: актыўна ўдзельнічаў у самадзейных гуртках як спявак-аматар і вядучы канцэртных праграм. Помню, на адным з канцэртаў палкавой самадзейнасці ў гарнізонным клубе прысутнічаў начальнік палітупраўлення Беларускай ваеннай акругі, брыгадны камісар Лесцеў. Калі заслона на сцэне апошні раз апусцілася, высокі госць прыйшоў за кулісы, каб падзякаваць выканаўцам за іх цікавыя канцэртныя выступленні. Звярнуўшыся асабіста да мяне, ён сказаў: "Ваш голас мне спадабаўся, думаю, вы можаце стаць добрым папаўненнем для нашага акруговага ансамбля".

Праз нейкі час мяне сапраўды выклікалі ў Мінск і пасля праслухоўвання залічылі ў склад Ансамбля песні і танца БВА пад кіраўніцтвам таленавітага харавога дырыжора Аляксандра Усачова. З таго часу я назаўсёды звязаў сваё жыццё з прафесійнай сцэнай. Менавіта ў гэтым ансамблі набыў першапачатковыя акцёрскія навыкі і прайшоў сапраўдную школу сцэнічнага майстэрства, музычнай граматы.

Паводле слоў М. Шышкіна, ансамбль БВА, арганізаваны за тры гады да пачатку Вялікай Айчыннай вайны, вельмі хутка ператварыўся ў першакласны мастацкі калектыў са сваім адметным рэпертуарам і высокай культурай выканання. Тут было нямала здольных спевакоў, танцораў, музыкантаў. Сярод іх асабліва вылучаліся галасістыя тэнары Віктар Сарокін, Іван Картавенка, моцныя Барытоны Мікалай Ворвулеў і Іван Зміеў, якія былі прыкладам упартай працы над тэхнікай вакалу і пеўчым рэпертуарам.

— З першых дзён фашысцкай навалы ансамбль Усачова зарэкамендаваў сябе ў салдацкай аўдыторыі адным з лепшых франтавых запявалаў, — удакладняе М. Шышкін. — Ён мужна крочыў дарогамі вайны, дзень за днём, без перадыху выступаючы з канцэртамі ў часцях дзеючай арміі Заходняга — 3-га Беларускага фронту. Сваімі ўзнёслымі гераічнымі песнямі, аптымістычнымі танцамі мы, артысты, узнімалі баявы дух і патрыятычны настрой у нашых воінаў, усялялі веру ў перамогу над ворагам.

Раптам у самы разгар вайны па загадзе камандавання фронту мяне ледзь не сілком адправілі на "ўзмацненне" новага ансамбля пагранвойскаў (яго першы даваенны склад трапіў у акружэнне і амаль цалкам загінуў). Шкада было пакідаць усачоўскі калектыў, які спрыяў раскрыццю маіх вакальных здольнасцей і па сутнасці стаў у ваенны час ці не даражэй за родны дом для кожнага з нас, маладых артыстаў. Але нездарма ў народзе кажуць: няма ліха без дабра. Пад канец вайны лёс зноў звёў мяне з ансамблем БВА (ім тады ўжо кіраваў прафесар Дзмітрыеў), дзе я па-ранейшаму спяваў у яго харавой групе, пакуль не дэмабілізаваўся з арміі.

**— А як трапілі на эстраду?**

— Пасля дэмабілізацыі паступіў у Мінскае музычнае вучылішча па класе вакалу, якое скончыў у 1948 годзе. Накіравалі мяне на працу па размеркаванні ў канцэртна-эстрадны аддзел Белдзяржфілармоніі. Спачатку выступаў як спявак з дзвюма-трыма песнямі ў зборных канцэртах. Адначасова спрабаваў сябе і ў размоўных жанрах: выконваў фельетоны, маналогі, інтэрмедыі. Але хутка зразумеў, што сумяшчэнне чыстага вакалу і мастацкага слова — не самы лепшы занятак для любога артыста. Таму асноўныя свае намаганні скіраваў галоўным чынам на авалоданне мастацтвам канферанса.

**— Якую выканаўчую манеру ўзялі сабе на творчае "ўзбраенне" і чым адметным вызначалася ваша праца ў ролі канферансье?**

— Калі кіраўніцтва філармоніі паставіла мяне на чале адной эстраднай брыгады, даручыўшы весці яе канцэртную праграму, я ўжо ведаў, што як канферансье павінен аб'ядноўваць разнажанравыя нумары артыстаў-партнёраў і быць нібы стрыжнем усяго канцэрта. Упершыню ў нашай рэспубліцы мне ўдалося ўвасобіць на эстрадзе ўласны беларускі канферанс з нацыянальным каларытам і з элементамі народнасці. Усе маналогі, інтэрмедыі, куплеты, рэпрызы выконваліся выключна на беларускай мове, чаго раней і знаку не было. Сатырычныя куплеты, пабудаваныя на вакале, часцей нагадвалі вясёлыя жартоўныя песні. Аднак, шчыра кажучы, гэты арыгінальны канферанс не адразу знайшоў падтрымку з боку філарманічнага начальства і Міністэрства культуры. Толькі пасля ўмяшання адказных работнікаў ЦК партыі прэм'ера эстраднай праграмы, на якую я патраціў шмат часу і творчых сіл, нарэшце, атрымала дазвол для публічнага паказу.

Мікалай Шышкін, па сутнасці, стварыў новы, нацыянальны вобраз канферансье. У простай, спавядальнай і даходлівай манеры ён расказваў са сцэны пра ўсё перажытае і выпакутаванае нашым народам, нашай краінай, пра дасягненні і недахопы сучаснага жыцця. У сваіх канцэртных нумарах размоўнага жанру ён быў заўсёды шчырым і панароднаму разважлівым выканаўцам. Многія маналогі-сцэнкі, эстрадныя апавяданні, прасякнутыя грамадзянскім гучаннем, выконваліся артыстам з асаблівым душэўным імпэтам, але без надакучлівага патэтычнага тону. І гэта кранала сэрцы гледачоў.

**— Мне запомніўся, Мікалай Мікалаевіч, цудоўны маналог-успамін "Партызанскія сустрэчы", што ў яркай публіцыстычнай форме апавядаў пра гераічную барацьбу народных мсціўцаў у гады мінулай вайны. Наколькі я ведаю, вы аўтар гэтага маналога. Што прымусіла ўзяцца за пяро і якія яшчэ літаратурныя творы напісаны вамі для эстрады падчас канцэртнай дзейнасці?**

— Эстрадны рэпертуар, асабліва размоўных жанраў, мае сваю тонкую спецыфіку, і не кожны нават прафесійны літаратар бярэцца за яго стварэнне. Вось чаму мне самому часта даводзілася выступаць за эстраднага аўтара, каб папоўніць свой рэпертуарны багаж новымі творамі. Дапамагалі ў літаратурнай творчасці нашы пісьменнікі Пятрусь Макаль, Іван Кудраўцаў, Мікола Алтухоў, Алесь Ставер, якія былі ў свой час загадчыкамі літчасткі Белдзяржфілармоніі. Створаныя мною маналогі і эстрадныя міні-апавяданні, такія, як ужо згаданыя "Партызанскія сустрэчы" альбо "Беларускія сыны", "Родны Мінск", "Браты", "Землякі" і шэраг іншых, прысвячаліся ў асноўным надзённым тэмам сучаснасці і вызначаліся высокай грамадзянскасцю, аптымістычным настроем. Гледачам падабаліся мае куплеты, інтэрмедыі, частушкі, поўныя вясёлых жартоўных эпізодаў і дасціпнага народнага гумару. Яны звычайна гучалі са сцэны ў створаных мною вобразах як адмоўных, так і станоўчых герояў нашай рэчаіснасці. З вялікім задавальненнем уключаў у праграмы гумарыстычныя вершы Пімена Панчанкі, Максіма Танка, іншых беларускіх пісьменнікаў.

**— Я чуў, што вы ў свой час працавалі артыстам ленінградскай эстрады. Хіба не так?**

— Гэта — незабыўная старонка ў маім жыцці. Аднойчы мяне паслалі ад рэспублікі ў Ленінград на стажыроўку, каб набраўся творчага вопыту і павысіў сваё майстэрства. Разам з ленінградскімі артыстамі ўдзельнічаў у зборных канцэртах; а свае нумары размоўнага жанру выконваў на беларускай мове, што зусім не шакіравала і не здзіўляла публіку. Пачынаў выступленне звычайна са слоў: "Я прыехаў да вас з Мінска! Прозвішча маё простае, нескладанае, лясное, духмянае, зялёнае-зялёнае — Мікола Шышкін!" Пасля такога ўступу паміж мною і залай адразу ўсталёўвалася нябачная ўзаемная сувязь, і канцэрт праходзіў з нарастаючым поспехам. Многія канцэртныя выступленні перад ленінградцамі даўно ўжо забыліся. А вось эстрадны спектакль "Белыя ночы" ў пастаноўцы знакамітага Георгія Таўстаногава, дзе мне пашанцавала іграць галоўную ролю, дагэтуль добра помніцца.

Мая "стажыроўка" расцягнулася на цэлыя чатыры гады. У Ленінградзе далі нават кватэру і настойліва прапанавалі застацца назаўсёды ў гэтым горадзе. Але Радзіма ўладарна клікала да сябе. І я вярнуўся ў Мінск, каб працягваць насычанае канцэртнае жыццё разам з беларускімі эстраднымі калектывамі. Павінен сказаць, што ў мой час беларуская эстрада перажывала свой сапраўдны "залаты росквіт", яна была ў жанравых адносінах вельмі разнастайная і цікавая. Кожная праграма ўключала ў сябе выступленні самых розных выканаўцаў — ад спевакоў, танцораў, чытальнікаў да артыстаў арыгінальных жанраў (жанглёраў, акрабатаў і г. д.). І кожны з іх быў майстрам сваёй прафесіі. З асобных эстрадных нумароў, аблямаваных, злучаных канферансам, складваўся яркі па змесце і выкананні паўнавартасны канцэрт.

**— Як вы ставіцеся да сённяшняй нашай эстрады? Што ў ёй радуе, што засмучае?**

— Прыемна, што на змену сталым эстрадным спевакам крочыць новае пакаленне таленавітых вакалістаў і ўсё больш з'яўляецца "зорак" у гэтым папулярным сёння жанры. Але чамусьці са сцэны зусім знік канферанс, рэдка можна пачуць артыстаў-размоўнікаў, куплетыстаў, у занядбанні апынуліся выканаўцы арыгінальных жанраў. На мой погляд, сённяшнія эстрадныя праграмы, пабудаваныя ў асноўным на вакале з некаторымі невыразнымі падтанцоўкамі, выглядаюць вельмі збяднелымі і аднастайнымі. Мне таксама незразумела, чаму Беларускае тэлебачанне ў некаторых сваіх перадачах пра мінулае нацыянальнай эстрады робіць значны акцэнт на тых артыстах, што працавалі на беларускай эстрадзе, а не на тых, што самаадданa служылі беларускаму эстраднаму мастацтву. Гэта, на маю думку, вялікая розніца!..

Заслужаны артыст рэспублікі Мікалай Шышкін аб'ездзіў з канцэртамі ўсю Беларусь. Бываў у самых аддаленых ейных кутках, радуючы гледачоў сваім самабытным мастацтвам. А колькі было праведзена гастрольных выступленняў на вялікіх прасторах былога Саюза, дзе натхнёна гучала беларускае слова нашага цудоўнага выканаўцы! Доўгі час ён паспяхова ўдзельнічаў як вядучы ў папулярнай тэлеперадачы "Запрашаем на вячоркі!" З'яўляецца адным са стваральнікаў і ўдзельнікаў мужчынскага вакальнага ансамбля "Памяць сэрца", які нядаўна адзначыў сваё дзесяцігоддзе. Гаворачы словамі беларускага паэта, Мікалай Шышкін "адчыняў людзям сэрцы, як маю адчыняем мы вакно". Імя гэтага майстра беларускага канферансу заслугоўвае ўсялякай пашаны і ўдзячнасці за яго ўклад у развіццё нацыянальнай эстрады.

**Георгій ЗАГАРОДНІ**

## Яго археалагічная дзялянка

ЯРАСЛАВУ ЗВЯРУГУ — 70

**Вядомы беларускі археолаг, кандыдат гістарычных навук Яраслаў Звяруга родам з Мядзела. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт, працаваў ва ўстановах народнай асветы, з 1966 года — у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук Беларусі. Яраслаў Генрыхавіч даследаваў старажытныя гарады Ваўкавыск, Слонім, Гродна, Ліду, Турыйск, Здзітаў, а таксама гарадзішчы, селішчы, курганы, могільнікі. Я. Звяругам адкрыты і ўведзены ў навуковы ўжытак больш за 30 археалагічных помнікаў Верхняга Панямоння. Акрамя таго, ён даследуе славяна-балцкія кантакты ў эпоху ранняга сярэднявечча. Я. Звяруга з'яўляецца аўтарам кніг "Древний Волковыск X—XIV вв.", "Верхнее Понемонье в IX — XIII вв.", "Беларускія старажытнасці" і іншых, адзін з аўтараў калектыўных прац "Нарысы па археалогіі Беларусі", "Кіеў і заходнія землі Русі ў IX — XIII стст", "Беларуская археалогія" і іншых.**

## "Старанем и коштом иноков..."


Букварь
Сирѣчь,
Начало ученія
Дѣтем начинающим чтенія
извыкати.
в Кутеинѣ
изображенія.
в Типографіи
Спиридона
Собола
Року, ахла.

**Ч. 64.**
**З Букваря Спиридона Соболя 1631. р.**

**375 гадоў таму быў заснаваны Куцеінскі Багаяўленскі манастыр пад Оршай. Дзякуючы друкарні, якая існавала тут з 1630 па 1654 год, старажытнае Куцейна стала цэнтрам беларускага кірылічнага кнігадрукавання. І пакуль друкарня не была сілаю вывезена спачатку пад Ноўгарад, а потым пад Маскву, яшчэ пазней — на Друкарскі маскоўскі двор, там паспелі "старанем и коштом иноков" выдаць каля 20 кніг. Спірыдон Собаль, Сільвестр Косаў, Памва Бярында, разбяр Арсеній, апякун Пятро Магіла, дабрадзей Багдан Статкевіч, ігумен Іаіля Труцэвіч — вось тыя імёны асветнікаў, культурных дзеячаў, якімі мы ганарымся па сёння.**

**Праславілі Прыдняпроўскую зямлю разбяры Куцеінскай школы. Іх дрэварыты ўпрыгожвалі выданні, якія мелі прызнанне і на Літве, і на Украіне, і ў Расіі. Некалькі выяў з куцеінскіх старадрукаў і прапаную на агледзіны. Гэта тытульны ліст з "Буквара" С. Собаля (1631), ліст з партрэтам евангеліста Лукі з кнігі Іаана Дамаскіна "Актаіх..." (1646).**

**Гэтыя творы кніжнай гравюры, як адзначаў В. Шматаў, стылістычна блізкія да традыцый беларускага народнага мастацтва, у малюнках прыкметны ўплыў мясцовай флоры і фаўны, яны маюць свецкі, жанравы характар.**



**Пакарыстаемся ж духоўным набыткам нашых продкаў!**

**Сяргей ПАНІЗНІК**

# Ліцвінская Іліяда

З ІНІЦЫЯТЫВЫ БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ ДА 200-ГОДДЗЯ Адама МІЦКЕВІЧА ВЫХОДЗІЦЬ САМАВІТАЕ ВЫДАННЕ: ПАЭМА "ПАН ТАДЭВУШ" НА ТРОХ МОВАХ (БЕЛАРУСКАЙ, ПОЛЬСКАЙ І РУСКАЙ).

*Кожны дуб сваёй*
*дуброве шуміць.*

..."Паўбярucца ў сілу, як дубы стануць" — здаўна кажуць у краіне над Нёманам і Дняпром пра падлеткаў. Не ўсе юнакі з віленскіх таварыстваў філаматаў і філарэтаў змаглі наталіцца моцай роднай зямлі. Выкрытае ў 1823 годзе (было арыштавана больш за 100 чалавек) краёвае студэнцтва з карэннямі вырвалі з радзімай глебы і параскідалі па вялізнай імперыі. Настаўнік лацінскай мовы ковенскай гімназіі Адам Міцкевіч за 5-гадовую высылку зведаў арыстакратычныя салоны Пецярбурга і Масквы. Зведаў пілігрым таксама чарнаморскую Адэсу і крымскія стэпы — мясціны, куды з каханай Літвы не далятала ніводнае рэха. І якую геній так болей і не пабачыў. 15 траўня 1829 года выгнаннік назаўсёды адплыў з Пецярбурга ў Германію. Зямляк Фадзей Булгарын, вядомы сувязямі з III-ім аддзяленнем, дабіўся афармлення пашпарта, даўшы 30-гадоваму дзецюку магчымасць вырвацца з учэпістых кіпцюроў Мікалая I "Палкіна". (Цень жандарскага сакрэтнага аддзялення падзе на высакароднага ліцвіна плёткай, нібы той выкупіўся ад царызму, даўшы згоду на агентурнае супрацоўніцтва.) Пазней, калі з Пушкіна стануць пацвельвацца — чаму ж таксама не жадае павандраваць па Еўропе? — класік рускай літаратуры дзеля адгаворкі скарыстае аўтарытэт геніяльнага сучасніка. Маўляў, навошта ўзірацца ў пейзажы, калі ў маім уяўленні яны больш прыгожыя, чым на самай справе. Паехаў бы, хіба каб пазнаёміцца з вялікімі людзьмі, аднак я знаёмы з Міцкевічам і ведаю, што больш вялікага, чым ён, не знайду. Бо ўжо з-пад пяра "певца Литвы" (Пушкін) паўстаў "Пан Тадэвуш" — найвялікшы ў славянскім свеце шэдэўр, які цяпер слушна называюць эпапеяй польскага нацыянальна-вызваленчага руху пачатку XIX стагоддзя, а тады ўсе замежныя сучаснікі (ад славянафіла І.Аксакава да аўтара "Мёртвых душ" М. Гогаля) намагаліся прачытаць у арыгінале. Па ахопе падзей, пачуццю гістарызму, майстэрству рэалістычнага бытапісання гэты неўміручы гімн параўноўваюць з сусветна вядомымі помнікамі народнага эпасу "Іліядай" і "Калевалай".

Задума напісаць "шляхецкую быліцу" ўзнікла восенню 1831 года, калі адчайны пілігрым з Італіі дапаў на Пазнаншчыну, дзе яго напаткала пякучая вестка пра разгром Лістападаўскага паўстання. Роспач ад няўдачы (паэт спяшаўся прыняць удзел у барацьбе з царызмам са зброяй у руках), расчараванне ва ўяўнай еднасці кіраўнікоў, надзея на новы рэвалюцыйны ўздым палякаў — усё гэта на пазнанскай зямлі, прырода якой балюча нагадвала родныя наваградскія абшары, абвастрыла ў Міцкевіча настальгічнае пачуццё, якое і прывяло да задумы напісаць гімн-успамін пра вольны край, дзе жыло хоць трохі шчасця: сонечны край маленства. Памяць пра яго чалавек носіць у сэрцы са святой пашанай, як пілігрым жменю бацькоўскай зямлі. Бо чужына не грэе.

Выхад у свет "Пана Тадэвуша" французскія бібліёграфы занатавалі 28 чэрвеня 1834 года. Наклад выдання склаў тры тысячы асобнікаў. У адрозненне ад папярэдняй кнігі "Дзяды. Частка III" (1832), якая на працягу двух гадоў двойчы перавыдавалася, новая кніга паэта разыходзілася вельмі марудна. Здарылася нават наступнае: калі ў 1838 годзе рыхтаваўся першы Збор твораў Адама Міцкевіча, выдаўцы яго ў V—VI тамах змясцілі "Пана Тадэвуша", змяніўшы папярэдне толькі вокладку экземпляраў першавыдання, што заставаліся на складах кнігарняў.

Тагачасная польская літаратурная крытыка, "айчынная" і "парыжскай эміграцыі", успрыняла паэму, мякка кажучы, неадназначна. Аўтару выстаўлялі поўнасцю супрацьлеглыя абвінавачванні. Напрыклад, газета *"Demokrata Polski"* (1838) папракала паэта ў "непачцівых" адносінах да высокіх грамадзянскіх ідэалаў Волі, Роўнасці, Братэрства, абвешчаных Вялікай французскай рэвалюцыяй 1789 года. Меліся на ўвазе пэўныя радкі з першай песні "Пана Тадэвуша", за якімі крытыкі ўгледзелі ў Міцкевіча непавагу да разумовага стану Польшчы. Прадстаўнікі правага крыла рабілі паэту закіды за фальшывае, згубнае, ганебнае імкненне да ўсяго замежнага. На думку аднаго з апанентаў, аўтарам паэмы з аднолькавым поспехам мог быць француз, немец ці англічанін, паколькі польскі дух ("polszczyzna") у творы адсутнічае. Апошнія з прыведзеных выпадаў нагадваюць наскокі варшаўскіх апалагетаў класіцызму на творчасць віленскіх філарэтаў і філаматаў канца 10-х—пачатку 20-х гадоў XIX ст., пераклікаюцца з прамымі папрокамі Міцкевічу: "Вы для Літвы, а не для Кароны пішаце... менш дбаеце пра тое, каб Вас разумелі ў Варшаве, абы толькі разумелі Вас у Вільні ці Літве...".

Незразуметая афіцыёзнай крытыкай квінтэсенцыя, закладзеная Міцкевічам у эпапеі, знайшла гарачы водгук сярод прыхільнікаў ягонага таленту і найперш у сэрцы земляка — Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, класіка беларускай літаратуры, які першым сярод славян наважыўся перакласці велічную сагу на родную мову. Мажліва, пад уражаннем пякучай весткі ў лістападзе 1855 года пра смерць змагарнага ліцвіна ў далёкім Канстанцінопалі Беларускі Дудар вырашыў аддаць даніну павагі найвялікшаму паэту XIX стагоддзя, зрабіць пераклад ягонага шэдэўра на мову таго народа, чыім багатым і цудоўным фальклорам узгадаваны талент Міцкевіча. Здзейсніць мару "літоўскага вестуна", выказаную ім у "Эпілогу" (пры жыцці генія неапублікаваным) да "Пана Тадэвуша", каб яго вершы, простыя, бы песні сялянак, трапілі пад мужычыя стрэхі. Каб вечным болем і прыгажосцю ўзвышалі свой люд. Каб на радзіме, сагрэтай таленавітым словам, ніхто не пачуваўся сіроцінай.

Аднак лёс першага беларускага перакладу паэмы Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш" склаўся трагічна. Пачатковыя дзве "быліцы", што пабачылі свет у Вільні ў 1859 годзе, царская цэнзура канфіскавала і, па няпэўных звестках, увесь наклад выдання спаліла. Не менш трагічны лёс напаткаў і другі беларускі пераклад, здзейснены ў 1931—1932 гадах у лёхах польскіх турмаў вядомым беларускім грамадскім і палітычным дзеячам Браніславам Тарашкевічам (1892—1938), які ў выніку абмену палітвязнямі з верасня 1933-га жыў у СССР, дзе ў 1937 годзе зноўку быў арыштаваны і як "агент панска-буржуазнай Польшчы" расстраляны. Вывезеныя ім з "белапольскіх" турэмных сутарэнняў пераклады "Іліяды" Гамера і "Пана Тадэвуша" А.Міцкевіча апынуліся ў нетрах падвалаў НКУС, адкуль здолеў выплыць толькі апошні рукапіс, каб праз паўстагоддзе стаць здабыткам культуры (Мінск, 1981; Ольштын, 1984)[1].

Таму калі чарговы (ужо пасляваенны) вязень сталінскіх лагераў Пятро Бітэль узяўся перакладаць шэдэўр сусветнай паэзіі, ён нічога не мог "падгледзець" у сваіх двух пакутных папярэднікаў. Больш шырокаму чытачу на Беларусі П. Бітэль (1912—1991) вядомы пакуль як аўтар паэм "Замкі і людзі" (1968), "Дзве вайны" (1990) і інш. Магчыма, гадаванец Барунскай і Віленскай настаўніцкіх семінарый (1925—1931) і не заняўся б перакладам, калі б не малох сталінізму, які ў 1950 годзе кінуў настаўніка нямецкай мовы з Валожыншчыны за турэмныя краты, а потым у Сібір.

Пераклад Пятра Бітэля паўстаў у 1953—1955 гадах паміж лесапавалам-будоўлямі Кемераўскай вобласці і меднымі руднікамі Джэзказгана. Так знакаміты твор, перакладзены на нашу мову, увайшоў у кроў і плоць, знітаваўся з імем перакладчыка, які праробленую працу лічыў сваім найгалоўным творчым здабыткам. П.Бітэль прадэманстраваў бліскучае веданне беларускай і польскай моў, здзяйсняючы свой пераклад без адпаведных слоўнікаў пад рукой. Толькі пакутны пераклад каторае дзесяцігоддзе не мог пабачыць свет, і нарэшце гэты "лагерны помнік" выходзіць да 200-гадовага юбілею Адама Міцкевіча. Пераклад, які з'явіўся ў далёкай Сібіры дзякуючы рупнасці пчалы, што шчыравала над свойскай кветкай, узрослай на родным палетку. Твор, які паўставаў у салонным Парыжы ў коле блізкіх сяброў-эмігрантаў, перакладаўся ў мядзведжай Сібіры, — вяртаецца на радзіму. (Нагадаем, што ў 1980-я гг. беларуская міцкевічыяна ўзбагацілася мастацкім перакладам Язэпа Семяжона).

Сплывуць стагоддзі, і паўстануць новыя пераклады "Пана Тадэвуша" — несмяротнага польскамоўнага шэдэўра пра наш Край. І ў той, ужо недалёкай будучыні, калі беларусы абавязкова займуць "свой пачэсны пасад між народамі", на покуці сярод першых нацыянальных песняроў яны з гонарам пасадзяць і Адама Міцкевіча. Гэтаксама, як ужо сёння, напрыканцы XX стагоддзя (чаго не назіралася яшчэ паўвека таму), поруч з першадрукаром Францішкам Скарынам велічна суседзіць Мікалай Гусоўскі, што ў далёкім XVI стагоддзі ўславіў Беларусь-Літву на адной з класічных моў Сярэднявечча — лацыні. І калі Мікалай Гусоўскі, заснавальнік лацінамоўнай рэнесансавай паэзіі на Беларусі, напісаную па просьбе тагачасных вышэйшых іерархаў, сваю паэму назваў "Песня пра зубра"— дык Адам Міцкевіч у XIX стагоддзі склаў "Іліяду", падзагаловак да якой чытаецца: "Песня пра Літву". А дакладней, спеў пра Наваградчыну. Развітальны лебядзіны кліч над нёманскімі дубровамі, над якімі ў паднябессі крыляюць верныя буслы і жураўлі перад вечным выраем. Як рэха гэты пракавечны покліч роднай зямлі падхопіць, ужо ў XX стагоддзі, зямляк з-над Нёмана і фамільянт паэта — Кастусь Міцкевіч, вядомы ў свеце як Якуб Колас.

"Пан Тадэвуш" — гэта нескароны дух генія, які тугу па родных загонах зганяў летуценнямі ў крынічных, чыстых, як паэтава сэрца, хвалях ракі маленства, памятаючы глыбінную мудрасць свайго народа: чым за морам віно піць, лепей з Нёмана вадзіцу. Кожны дотык у снах ці мроях да радзіннай зямлі загартоўваў надточаную эміграцыяй на чужыне паэтаву душу. Гарт, якому пазайздросціў Фрыдэрык Шапэн, назваўшы Адама Міцкевіча "здольным вытрымаць яшчэ некалькі эміграцый і не страціць ні розуму, ні энергіі". Праўдзівы літоўскі дуб-волат, што каранямі ўчапіўся ў радзімы палетак, "усклаўшы на гарбаты карак цяжар пяці стагодзяў" ("Пан Тадэвуш", кніга III, радок 565). Прымаючы, нібы ўдары маланак, пакуты мільёнаў. Бо вялікага ліцвіна заўсёды ахінала адвечнае "літоўскае неба" (гл. пачатак кнігі X). Бо пад тым узвышаным небам навекі засталіся магілы бацькоў, дзядоў і прадзедаў (яны надаюць вечную сілу нябёсам). Бо Свіцязь — найчысцейшая Кастальская крыніца на еўрапейскім Парнасе.

Чытаючы «Пана Тадэвуша», неабходна памятаць, што паэт, згодна тагачаснай традыцыі, слова «Літва» ўжываў у значэннях: 1/ гістарычным (скарочаная назва дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага); 2/ геаграфічна-адміністрацыйным. «Літвой» у першай палове XIX ст. (дый пасля) афіцыйна называліся цэнтральныя і заходнія сучасныя беларускія землі — губерні Мінская, Гродзенская і Віленская, у адрозненне ад «беларускіх» губерняў — Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай, а таксама Жамойціі (Жмудзі) — Ковенскай губерні. Этнічную Літву-Летуву паэт традыцыйна называў Жмуддзю, этнічных літоўцаў-летувісаў — жмудзінамі. Таму «Літва» для песняра — яго Радзіма, першавыток. Паказальна, што ў арыгінале паэмы радзімае слова «*Litwa*» сустракаецца каля 55 разоў, а, напрыклад, тэрмін «***Polska***» прыблізна 15. Вось чаму «Пан Тадэвуш» — унікальная паэтычная энцыклапедыя Літвы-Беларусі пачатку XIX ст. на польскай мове — блізкая і зразумелая беларусам, суайчыннікам Адама Міцкевіча.

"Пан Тадэвуш" — паэтычнае евангелле пра нашу зямлю аднаго з прарокаў-апосталаў, пазбаўленага сваёй Бацькаўшчыны. І невыпадкова "евангелле" гэта пачынаецца найдаражэйшым для генія радзімым словам: "***Л І Т В А***".

"Пан Тадэвуш" — вечна жывая кветка з парыжскага бруку на шляхетную Атлантыду Бацькаўшчыны. Пра веліч той Атлантыды сведчаць сёння толькі руіны магутнага замка ў родным Наваградку. Колькі нябеснага нектару, зямнога водару, сыноўняй тугі і святла ў гэтай кветкі? Не ведаю. Спытайцеся ў жытніх хваляў, "у лугоў духмяных, Шырока над блакітным Нёмнам разасланых", у сонца, якое штодня ўзыходзіць, як у часы Адася, з-за волатаўскіх плячэй наваградскіх узгоркаў над Вільняй, Завоссем, Рутай і Туганавічамі, над абломамі наваградскага замка, над крыжамі Наваградскага фарнага касцёла, дзе быў ахрышчаны Адам Бернард Міцкевіч — наш зямляк, наш суайчыннік, аўтар аднаго з найцудоўнейшых твораў сусветнай паэзіі.

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ**

[1] *Першы рукапіс Б.Тарашкевіча, пэўна, згінуў, і беларусы дасюль існуюць без нацыянальнага перакладу "Іліяды".*

УГОДКІ

# Пад каўшом Вялікай Мядзведзіцы

## 8 ВЕРАСНЯ Анатолю ГРАЧАНІКАВУ СПОЎНІЛАСЯ Б 60

У КОЖНАГА ПАЭТА, пры жаданні, абавязкова можна знайсці некалькі твораў, якія асабліва грэюць сэрца і лагодзяць душу. Праўда, што ні чытач, дык свой адбор. І ўсё ж многія, хто добра знаёмы з паэзіяй Анатоля Грачанікава, бадай, пагодзяцца, што ў шэрагу яго найлепшых вершаў ёсць і гэтыя два.

Першы з іх з другой кнігі паэта "Круглая плошча" (першая, "Магістраль", з'явілася ў 1964 годзе). Верш датаваны 1971-ым. А называецца ён "***Шарпілаўка цячэ ў жыццё, як Сож...".

Як вядома, А. Грачанікаў родам з вёскі Шарпілаўка Гомельскага раёна. Адразу відавочна, што гэта найперш гаворка пра "малую радзіму". Але тут няма эксплуатацыі світальных ранкаў, салаўіных спеваў і іншых атрыбутаў падобных твораў.

А. Грачанікаў паспяхова пераадолеў магчымасць паўтору. Найперш сказаўся талент. Аднак і здатнасць мысліць так, што малюнкі зямныя і малюнкі касмічныя паядноўваюцца. Зближаюцца не столькі часавыя паняцці, колькі адлегласці. Верш крыху тужліва-засяроджаны. Але гэта і верш, у якім вельмі жыццядайны, аптымістычны пачатак. Лірычны герой сам-насам і з дарагімі сэрцу краявідамі, але ён свой і ў свеце, і ў сусвеце, што называецца Космасам. Прытым касмічнасць думкі выяўляецца ў не такім і кідкім малюнку. Аднак тым і большая каштоўнасць яе, што яна вынікае са звычайнага, штодзённага і здатная ўвабраць у сябе ўсё, што толькі магчыма:

***Шарпілаўка цячэ ў жыццё, як Сож,***
***Свае ў яе віхуры й перакаты.***
***Апоўначы на сцішаныя хаты***
***Мядзведзіца схіляе зорны коўш.***
***І ў першароднай цішыні наўкол***
***Я слухаю, прысеўшы на калодзе,***
***Як вечнасць, асядаючы на дол,***
***Быцця зямнога запаўняе соты.***

Другі верш называецца "xxxВечарэла...". Напісаны ён значна пазней, у 1984 годзе. У ім таксама цесна паэтавай думцы. Ды ў гэтым творы зближаюцца ўжо не адлегласці, а часавыя паняцці. Праўдзівей кажучы, яны зрушваюцца. У сённяшняе ўладна ўрываецца мінуўшчына. Аднак не адразу прыходзіць, а праз вобразы, што выклікаюць пэўныя асацыяцыі, звязаныя з даўнінай. Спачатку мройнае пераважае над рэальным:

***Вечарэла.***
***Адзін я ішоў***
***Задуменна-пустымі палямі.***
***І абрысы пажоўклых стагоў***
***Уяўляліся мне курганамі.***

І толькі пасля гэтага ў мастацкую тканіну верша ўпісваецца тое, дзеля чаго ён і напісаны. І ўжо бачыш маўклівых сведкаў мінуўшчыны, адчуваеш цяжар гадоў, што лёг на іх. У цяжары гэтым — боль, падобны таму, які перажывае чалавек, калі шмат прайшоў шляхоў-дарог і апынуўся перад сваёй апошняй сцежкай:

***А яны, курганы, ля дуброў***
***Зараслі: аплылі і аселі,***
***Быццам рэха мінулых вякоў***
***Не ўтрымалі ў парэпаным целе.***

Лірычны герой неаднойчы праходзіць міма гэтых сведкаў мінуўшчыны. Міма сведкаў багатай нацыянальнай гісторыі. Апошняе ва ўсёй значнасці разумееш сёння. А тады, у час напісання верша, панавала і нейкая недагаворанасць у ім. Але наколькі шматзначнай яна была?!

***Колькі я ні вяртаўся дамоў,***
***Колькі ні адлучаўся я з дому, —***
***Не наведаць не мог курганоў,***
***А чаму?***
***Гэта мне невядома.***

Ужо двух гэтых вершаў дастаткова, каб гаварыць пра А. Грачанікава як пра паэта надзіва самабытнага. А ў яго ж былі іншыя творы, вартыя ўвагі. І ва ўжо названых зборніках "Магістраль" і "Круглая плошча", і ў кнігах "Грыбная пара" (1973), "Начная змена" (1975), "Дрэва на выспе" (1977), "Палессе" (1983), "Верасень" (1984) і іншых. У іх пераважае сапраўдная паэзія, у вартасцях якой, думаю, няма патрэбы пераконваць. Яе трэба чытаць не проста ўважліва, а ўважна. І яе неабходна любіць. А любілі паэзію А. Грачанікава ў аднолькавай ступені і чытачы, і крытыкі. У тым ліку і за светлую лірычнасць асобных твораў, сапраўдную паэтычнасць іх. Невыпадкова, што асобныя сталі песнямі. Сярод іх найбольш папулярная гэтая, вядомасць якой з гадамі не змяншаецца:

***Над Белай Руссю — белы снег,***
***Нібыта чыстае сумленне,***
***Нібыта светлае збавенне***
***За самы патаемны грэх.***

Пра вялікую прыцягальную сілу грачанікаўскай паэзіі сведчыць тое, што пра яго творчасць пісалі многія крытыкі. А такі знаўца паэзіі, як Рыгор Бярозкін, аднаму з вершаў Анатоля Сымонавіча "Карло Каладзе" прысвяціў нават артыкул "Калі паэт і паэзія — тэма...", апублікаваны ў "ЛіМе" (нумар за 9 чэрвеня 1978 года).

Важкія набыткі А. Грачанікава і ў галіне дзіцячай літаратуры. Дарэчы, і Дзяржаўная прэмія БССР яму была прысуджана ў 1984 годзе за "дарослую" кнігу "Палессе" і за зборнікі для дзяцей "Валерка і лятаючая талерка" і "Казка пра Івана-ганчара і пачвару цара".

Плённа пісаць для маленькіх паэт пачаў пасля 1976 года, калі стаў галоўным рэдактарам часопіса "Вясёлка". На гэтай пасадзе працаваў два гады, а потым — з 1978 да 1982-га — галоўным рэдактарам часопіса "Бярозка". І першыя яго творы для дзяцей, якія і цяпер варты ўвагі, убачылі свет менавіта на старонках "Вясёлкі". Патрабаванні да сябе былі строгімі. Не мог не разумець галоўны рэдактар таго, што трэба пісаць так, каб паказваць прыклад іншым.

Найбольш ярка талент А. Грачанікава-дзіцячага пісьменніка раскрыўся ў жанры казкі. Паэт нярэдка браў за аснову фальклорныя творы (тыя ж казкі, легенды, паданні), часам ствараў уласныя сюжэты, але поспеху звычайна дасягаў тады, калі спалучаў гэтыя два падыходы. Не выключэнне і "Казка пра Івана-ганчара і пачвару цара".

Герой казкі цар, які быў кульгой і сляпым на адно вока. Вырашыў заказаць свой партрэт. Але ніводзін з іх не спадабаўся. У адным, на якім цар быў намаляваны прыгожым і здаровым, убачыў жаданне аўтара мець за правіцеля іншага Уладара. Зірнуўшы на другі, на якім быў намаляваны такім, якім ёсць, таксама абурыўся. Абодвух мастакоў напаткала смерць. Выйсце ж знайшоў звычайны хлопец, ганчар Іван:

***На кургане***
***Стаяў там цар,***
***Усемагутны ўладар,***
***Прыжмурыўшы***
***Сляпое вока,***
***Ён з лука***
***Цэліўся высока***
***У неба,***
***Дзе жывая цэль —***
***Плыў урачыста***
***Журавель.***



*На поўдні, у адпачынку. 1979 г.*
*Фота з архіва Н. ГРАЧАНІКАВАЙ.*

***А той***
***Засохлаю нагою,***
***Што выпіналася***
***Дугою,***
***Ён абапёрся***
***На валун...***

У гэтай казцы, як і ў легендзе "Слуга і Ўладар", паэт сцвярджаў думку аб здаровых сілах народа, аб тым, што чалавек працы — чалавек сумленны, куды разумнейшы за тых, хто ім правіць. Пераможцам выходзіць і каваль Мірон з казкі "Чорны замак". Казка ж "Трэці сын" — па сутнасці вершаваная аповесць. Твор аб'ёмны, з разгорнутым сюжэтам. І, што важна для дзяцей, вельмі займальны.

А. Грачанікаў-творца (шмат і перакладаў) непадзельны ад А. Грачанікава-настаўніка. Творчага настаўніка. Уменне падтрымаць маладыя таленты дало знаць ужо тады, калі Анатоль Сымонавіч узначальваў рэдакцыйныя калектывы "Вясёлкі" і "Бярозкі". Але асабліва шмат зрабіў у гэтым кірунку А. Грачанікаў пасля прызначэння ў 1982 годзе галоўным рэдактарам часопіса "Маладосць". Не адмаўляючы таго, што было зроблена яго папярэднікамі, усё ж трэба прызнаць: А. Грачанікаў адкрыў літаратуры дзесяткі новых імёнаў. Многія аўтары, што дэбютавалі ў свой час на старонках грачанікаўскай "Маладосці", сёння сталі знакамітымі пісьменнікамі. Менавіта А. Грачанікаў стаяў ля вытокаў "Бібліятэкі часопіса "Маладосць", першы нумар якой з'явіўся ў ліпені 1988 года. Цяперашні, вераснёўскі зборнік яе будзе ўжо 123-ім па ліку.



*Разам з І. Мележам у Бягомлі. 1972.*

*Фота У. КРУКА*

Можна толькі гадаць, як шмат мог бы яшчэ ён напісаць, колькі добрых спраў зрабіць, ды жыццё А. Грачанікава заўчасна абарвалася 7 сакавіка 1991 года.

Засталіся кнігі...

Засталася ўдзячная памяць...

Засталося трывалае месца ў гістрыі літаратуры.

**Язэп ЛІЦВІНОВІЧ**

СЕМІНАРЫ

# Аб'ядноўвае людзей мова...

Гасцінная краіна Славакія і такая ж гасцінная і прыгожая яе сталіца Браціслава ў чарговы раз запрасілі сёлета да сябе ўсіх, хто цікавіцца мовай і культурай гэтай краіны, на міжнародны летні семінар. Студыя Акадэміі Славакіі (САС) ужо ў 34-ы раз арганізуе і праводзіць яго на базе філасофскага факультэта універсітэта імя Яна Амоса Каменскага ў Браціславе.

Семінар разлічаны на прафесараў і дацэнтаў, асістэнтаў і лектараў вышэйшай школы, на слухачоў курсаў павышэння кваліфікацыі, што цікавяцца гэтай краінай і рознымі аспектамі яе развіцця, на студэнтаў, якія вывучаюць славаністыку і славістыку ў замежных універсітэтах, на перакладчыкаў, пісьменнікаў і журналістаў, а таксама на ўсіх, хто хоча авалодаць славацкай мовай.

Мэта семінара, на які сёлета ў жніўні прыехалі і прыляцелі 168 удзельнікаў з 38 краін свету, — удасканаленне валодання славацкай мовай і паглыбленне ведаў у галіне літаратуры, а таксама славацкай культуры ўвогуле. Геаграфія краін, прадстаўнікі якіх былі на семінары ў Браціславе, вельмі разнастайная і даволі стракатая. Былі прадстаўлены і Еўропа, і Азія, і Амерыка. Прыехалі і моладзь (60 працэнтаў), і людзі сталага ўзросту з такіх краін, як Японія, Германія, Аўстрыя, Злучаныя Штаты Амерыкі, Куба, Італія, Францыя, Балгарыя, Польшча, Партугалія, Іспанія, Румынія, Югаславія, Расія, Егіпет, Украіна, Фінляндыя, Канада і многія іншыя. Былі прадстаўнікі і Рэспублікі Беларусь. Вельмі сімвалічным выглядала тое, што студэнцкі інтэрнат універсітэта імя Яна Амоса Каменскага, у якім жылі ўдзельнікі семінара, носіць назву "Дружба".

Менавіта ў атмасферы шчырай дружбы, настойлівасці ў авалоданні славацкай мовай, зацікаўленасці да спазнання культуры гэтай краіны прайшоў семінар. Былі цікавыя заняткі (семінары і лекцыі), карысныя і пазнавальныя паездкі і экскурсіі па краіне, абмеркаванне праблем развіцця славацкай мовы, культуры, літаратуры, сустрэчы з пісьменнікамі, проста гутаркі і абмены думкамі па самых розных пытаннях, дыскусіі і вечарыны.

Можна смела сказаць, што шчырасць, прыязнасць і дружба былі асноўнымі пачуццямі, якія панавалі тут у Браціславе ўсе тры тыдні, што доўжыўся семінар.

**Віталь МАСЛОЎСКІ**

## Зведаў нямала

**30 жніўня споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння крытыка і літаратуразнаўцы Алеся Макарэвіча (памёр 30 снежня 1967 года). Родам з вёскі Шэлегі Пухавіцкага раёна. У 1939 годзе скончыў літаратурна-лінгвістычны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. Некаторы час настаўнічаў у Хойніцкай сярэдняй школе. У лістападзе таго ж 1939-га быў прызваны ў армію. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Пад Ельняй быў цяжкапаранены, трапіў у канцлагер. Вызвалілі А. Макарэвіча ў сакавіку 1945 года. Дэмабілізаваўся ў канцы гэтага года. Працаваў настаўнікам, завучам Талькаўскай сярэдняй школы на Пухаўшчыне. З 1947-га па 1949 год — аспірант кафедры беларускай літаратуры Мінскага педінстытута. Абараніў кандыдацкую дысертацыю. У 1949—1967 гадах А. Макарэвіч выкладаў беларускую літаратуру ў Магілёўскім педагагічным інстытуце. Некаторы час з'яўляўся дэканам філалагічнага факультэта.**

**Друкаваўся з 1951 года. Выйшлі кнігі "Сатыра Кандрата Крапівы", "Кароткі літаратуразнаўчы слоўнік", які вытрымаў два выданні, "Ад песень і думак народных", "Фальклорныя матывы ў драматургіі Янкі Купалы". А. Макарэвіч быў адным з аўтараў вучэбных дапаможнікаў для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў "Беларуская дзіцячая літаратура" і "Беларуская вусна-паэтычная творчасць".**

## Аўтар "Люду беларускага"

**Дасведчаны чытач адразуназаве яго і не памыліцца — так, на ўвазе маецца Міхал Федароўскі, з дня нараджэння якога 1 верасня споўнілася 145 гадоў (памёр у 1923 годзе). М. Федароўскі — вядомы польскі і беларускі фалькларыст, гісторык, этнограф і археолаг. Вынікам яго даследаванняў польскага фальклору і этнаграфіі стала двухтомная манаграфія "Люд ваколіц Жарак, Севежа і Пііліцы...". Круг інтарэсаў М. Федароўскага быў шырокі. Ён цікавіўся духоўнай і матэрыяльнай культурай, збіраў кнігі, гістарычныя дакументы, творы жывапісу і графікі. Вядомы М. Федароўскі і як археолаг, які раскопваў курганы, старажытныя паселішчы і могільнікі. Ён назапашваў матэрыялы да археалагічнай карты дагістарычнай Беларусі. Але асноўныя набыткі М. Федароўскага ў галіне фалькларыстыкі: сабраў каля 5 тысяч беларускіх народных песень, каля 10 тысяч прыказак, сотні казак, загадак, забабонаў, прымхаў, парад па народнай медыцыне. Фальклорныя матэрыялы М. Федароўскага і склалі змест яго шырокавядомай працы "Люд беларускі", восем тамоў якой пабачылі свет у прамежку з 1897-га па 1981-шы гады. Дарэчы, асобныя раздзелы з "Люду беларускага" ў перакладзе на беларускую мову Янкі Саламевіча былі выпушчаны выдавецтвам "Полымя" ў серыі "Літаратурныя помнікі Беларусі". Я. Саламевіч з'яўляецца і аўтарам манаграфіі "Міхал Федароўскі", што пабачыла свет у выдавецтве "Навука і тэхніка".**

## У вольны час



**У вёсцы Жукаўшчына Дзятлаўскага раёна жыве вельмі таварыскі, па словах аднавяскоўцаў, і таленавіты чалавек — Надзея Іванаўна Саўчанка. Загадваючы калгасным складам, яна пасля работы бярэ ў рукі алоўак ці пэндзлі і малюе. Кветку ў садзе, суседнюю вуліцу, бліжэйшыя азёры, знаёмых людзей.**

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

БЫЛО...

***Ідучы ўпершыню ў Інстытут тэхнічнай кібернетыкі, я яшчэ не ведала, што на ўсіх дошках гонару там вісіць ягоны партрэт. Аляксандра РАКОВІЧА — прызнанага спецыяліста ў сваёй галіне, доктара навук, прафесара, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР — надзіва мала ведаюць у гуманітарных асяродках. Мо таму, што "тэхнар", што занадта сціплы і ў першыя рады не імкнецца. Яго маладосць прыпала на іншы час, ён зведаў здзекі сталіншчыны, але з жыццёвых выпрабаванняў выйшаў нязломленым і годным. У свае 70 плённа працуе, падрыхтаваў 11 кандыдатаў навук, мае трох дактарантаў, з'яўляецца актывістам акадэмічнай суполкі ТБМ.***

***Мы гутарылі ў яго службовым кабінеце, дзе якраз зацвілі на падваконні кактусы — аб'ект захаплення і гонару гаспадара. У працэсе падрыхтоўкі матэрыялу пытанні мне здаліся лішнімі, так дыялог ператварыўся ў маналог, разбіты на раздзелы. Знаёмства з гэтым неардынарным чалавекам прымусіла задумацца вось пра што. Нацыянальная свядомасць хоць і важны крытэрый асобы, ды ўсё ж не адзіны і не самы, можа, вызначальны. Перадусім — я к і сам чалавек, ш т о нясе ён у жыццё, я к і м і матывамі і прынцыпамі кіруецца, ч а м у служыць — уласнаму эга ці грамадскаму прагрэсу...***

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# А Беларусь — жыве!

### Пад Пілсудскім

Маё дзяцінства прыпала на час так званай Версальскай, міжваеннай Польшчы. Жылі мы ля Карэлічаў у вёсцы Лясок (тады гэта быў Навагрудскі павет). У тых мясцінах, як і ва ўсёй Заходняй Беларусі, выразна праявілі сябе дзве сілы: камуністычны бальшавіцкі рух, які дзейнічаў праз агентуру і быў прывабным для маламаёмасных, і нацыянальны беларускі рух з цэнтрам у Вільні. Многія адраджэнцы верылі, што БССР і ёсць ідэал незалежнай Беларусі. За што і паплаціліся пазней... Маю свядомасць разбудзілі, можна сказаць, самі абставіны, ды і сям'я паспрыяла. Члены КПЗБ усе былі беларусамі. Калі вяскоўцы падазравалі ў кімсьці шпіка-канфідэнта, г. зн. асведаміцеля польскай палітычнай паліцыі, то ладзілі яму сапраўдны байкот. Такія людзі нават кароў пасвілі асобна, а не ў агульным статку.

Заканчваў я шэсць класаў польскай школы. Першы год, заўважце, вучыўся па-беларуску, што мела для мяне важнае значэнне. У трэцім, польскім класе стаў сведкам і ўдзельнікам школьнага бунту, як цяпер сказалі б — страйку. Старэйшыя вучні пад уплывам беларускай і прасавецкай палітыкі вырашылі баставаць супроць польскамоўнага навучання. Школа ў Заполлі была, па цяперашнім разуменні, базавая, для ўсіх, яе наведвалі ўсе дзеці з бліжэйшых вёсак. І вось вучні (а іх пад 300) з 1-га па 7-ы клас сабраліся ў двары і ў школьны будынак не заходзяць. Першы, другі званок — ніхто не кранаецца з месца. Выходзіць "кіроўнік", г. зн. дырэктар, і кажа: "Дзеці, заходзьце ў школу". Старэйшы высокі хлопец робіць нам знак, і мы хорам прамаўляем: "Мы дамагаемся беларускай школы, беларускай мовы навучання". Кіроўнік зноў запрашае, і мы паўтараем тое самае. "Ад мяне тое не залежыць, — тлумачыць ён. — Я скажу павятоваму інспектару пра ваша патрабаванне, а вы ідзіце на заняткі". Мы трэці раз дружна прагалёкалі сваё, начапілі на кій чырвоны берэт і пайшлі са спевамі цераз вёску. А спявалі мы чамусьці... "По долинам и по взгорьям".

Як і трэба было чакаць, з'явілася паліцыя. (Прычым аператыўна, хоць тэлефоннай сувязі тады не існавала.) Мы разбегліся па дамах і школу мо тыдні два не наведвалі. Паліцыянты пачалі хадзіць па хатах, разбірацца. Мая маці схітрыла: адзін, кажа, хворы (я пад коўдру схаваўся), а другога ў школу адправіла. Шмат каго потым штрафавалі з бацькоў... Настаўнікі чапіліся, маглі і на калені паставіць, як што не па іх. Затое ў 4-ым класе гісторыю, геаграфію і "рахункі" выкладалі ў нас па-беларуску. У 5-ым, на жаль, пайшло тое самае...

### Вучоба і настаўнікі

У гімназію паступаў я ў чэрвені 39-га. Цікава, што ўсе экзамены, вусныя і пісьмовыя, здаваліся за адзін дзень. Выехалі з бацькам на кані ноччу, каб раніцою быць у Навагрудку. Па польскай мове сачыненне пісалі на такую прыблізна тэму: хто з вялікіх герояў-палякаў найбольш падабаецца і чаму. Думаю, скіроўвалі на асобу Пілсудскага, бо пра яго нам многа гаварылі. Я пісаў пра Уладзіслава Варненьчыка — сына Ягайлы (15 ст.), які быў запрошаны на пасад у Венгрыю. Калі туркі штурмавалі Балканы, ён загінуў пад Варнай. Каля 11-ці вечара я даведаўся, што паступіў. 1 верасня падаўся на вучобу, і тут пачалася Другая сусветная.

Праз два тыдні прыйшло чырвонае войска (згодна пакта Молатава—Рыбентропа заходняя частка Беларусі адыходзіла да СССР). Нас, маладых, каму Беларусь была ўжо ўкладзена ў галаву і сэрца, прыход чырвоных не асабліва ўзрадаваў. Мне асабіста яны перашкодзілі вучыцца — як пазней і немцы. А вучыцца я надта любіў. Усе яркія ўражанні дзяцінства звязаны ў мяне выключна з вучобай. Настаўнікам быў вельмі ўдзячны — нават тым, што на калені ставілі. Трэба сказаць, што польскія настаўнікі былі вельмі падрыхтаванымі, ведалі сваю справу, цікава расказвалі. Многіх з іх мабілізавалі на вайну з немцамі, і яны пасля бясследна загінулі. Ці не ў Катыні косці злажылі?

У беларускай гімназіі, якая пераехала з Вільні і куды я перавёўся, вучыцца было ганарова. Дырэктарам працаваў знакаміты Барыс Кіт, які стаў вядомым вучоным у галіне астранаўтыкі ў ЗША, выкладалі людзі з універсітэцкімі дыпломамі.

З прыходам чырвоных у 39-м звязаны такі запамінальны эпізод. У Карэлічах танкі, мітынгі, на балконах людзі, якія пацярпелі ад польскіх уладаў... Я ў гімназісцкай форме, у шапцы з кукардай. Падзывае мяне рускі афіцэр і цікавіцца, што гэта за форма. Потым кліча: "Старшина, звездочку!" Забраў ён маю кукарду (мусіць, на сувенір), а мне на шапку прышпіліў чырвоную зорку. Праз тыдзень з гэтай зоркай я і з'яўляюся ў гімназію. Там пакуль усё тое самае, толькі вучняў паменела. Дырэктар паглядзеў на мяне, распытаў дый кажа: "Каб заўтра знайшоў кукарду. Ты гімназіст". Смелы быў чалавек, як я цяпер разумею... Дзе яе, думаю, узяць? Старэйшы сябра выручыў: аддаў сваю са старой шапкі...

У 41-м, як прыйшлі немцы, вучобы не стала зусім. Сяку буракі, кармлю карову — так да лютага і пракантаваўся. Тым часам у Навагрудку адкрылі шасцімесячныя курсы, бо паадчыняліся нарэшце беларускія школы, а настаўнікаў не хапала. У мяне нават пасведчанне захавалася, што маю права выкладаць у беларускай пачатковай школе. Але выкладаць не давялося, мне не было яшчэ 16-ці, а тут і семінарыя адкрылася настаўніцкая. Праўда, педагагічнай жылкі ў мяне не аказалася. Ні ў школах не выкладаў, ні цяпер лекцый не чытаю. Адно што курсы вёў па кібернетыцы ў расійскіх гарадах.

### Там, дзе вечная мерзлата

Пасля вызвалення Карэлічаў мяне прызвалі на службу ў Чырвоную Армію. Быў кур-

ПАМЯЦЬ

# "З наша павандруйце, з наша паваюйце..."

Гэтыя кніжкі выпушчаны недзяржаўнымі мінскімі выдавецтвамі блізка па часе. Прачытаныя былі мною, так атрымалася, таксама амаль што адна за адной. Пераклікаюцца характарам, пазіцыяй, настроем, успомненымі асобамі, падзеямі. І паколькі аўтары іх — паважаныя ветэраны беларускай журналістыкі, увушшу ў мяне пры чытанні не-не ды пачынала гучаць шырокавядомая песенька франтавых карэспандэнтаў, створаная на дарогах Айчыннай вайны Мацвеем Блантарам і Канстанцінам Сіманавым. Найчасцей тры яе радкі:

***С наше покочуйте,***
***С наше поночуйте,***
***С наше повоюйте хоть бы год.***

Непасрэдна словы гэтай няхітрай песенькі лёгка прыкладаюцца да жыццёвага вопыту аўтара адной з кніжак — Міхаіла Шыбаліса, які пражытае і перажытае згадвае нарысамі, публіцыстыкай і вершамі зборніка "Мгновения в памяти и в сердце". Вайсковы газетчык з першых да апошніх дзён Айчыннай, журналіст у пагонах яшчэ доўга ў пасляваенную пару, ён прайшоў праз выпрабаванні вайны "с пером навскидку", як пазней азначыў ягоны прафесіяналізм удзячны за літаратурную дапамогу ўспомнены ў зборніку стары партызан. Сведчаннем гэтага змешчаныя ў кніжцы мемуарныя навелкі пра франтавыя сустрэчы, непрэтэнцыёзныя вершы, што публікаваў у газетах, дзе служыў, як усхваляваныя водгукі на гарачыя паведамленні з пярэдняга краю, дывізійная песня, напісаная па загадзе начальніка палітаддзела дывізіі, газету якой рэдагаваў, фатаграфіі з таварышамі, пра якіх мае права сказаць — зноў працытую "Карэспандэнцкую застольную" Сіманава — "с "лейкой" и с блокнотом, а то и пулеметом сквозь огонь и стужу мы прошли".

Што ж да Аркадзя Тоўсціка, аўтара кнігі "Вяртанне да вытокаў сваіх", то на пачатак вайны ён быў школьнікам і, вядома, у мыслях не трымаў, што яго чакае журналісцкая будучыня. Юны партызан, потым салдат, для якога вайна са штодзённай магчымасцю стрэцца са смерцю колькі гадоў доўжылася і пасля пераможнай вясны сорак пятага, бо служыць давялося ў вайсковай сіле, што ачышчала хутары і пушчы Літвы ад "лясных братоў", потым камсамольскі апаратчык, ён пачаў асвойваць у рэдакцыі "Чырвонай змены" новую прафесію не зялепухай, што мае ззаду адно школьніцтва ды студэнцтва. І вырас з часам да рэдактара "Звязды", да аўтарытэтнага старшыні рэспубліканскага Саюза журналістаў.

Але ў працытаваныя песенныя радкі я дазваляю сабе ўкласці зместу больш, чым тое мелася на ўвазе знакамітым іх стваральнікам. "З наша павандруйце, з наша паваюйце" пашыраю ў маштабе. Сіманаўскі лакальны сэнс — маўляў, дальбог, на гэтай страшнай і святой вайне мы, карэспандэнты, хлопцы ніштаватыя, — павялічваю да падсумавання старымі газетнымі ваўкамі ўсяго паспытанага імі за пражыты век: і навандраваліся яны, і наваяваліся. На такую выснову навяло прачытанае ў абедзвюх кніжках.

Вядома, гэта расказ пра час, у які духоўна сфармаваліся аўтары. Насуперак таму, як ён часта з цяперашняй аддаленасці малюецца, неаднафарбны. Не кажу пра тых, каму сёння дваццаць ці трыццаць, — нават бацькам іхнім, ва ўсякім разе, многім, перадваенныя дзесяцігоддзі ў нашай краіне бачацца толькі змрочна захмаранымі: з разгулам рэпрэсій, страхотамі прымусовай калектывізацыі, чэргамі па хлеб, іншымі адметамі гэткага кшталту. А вось Шыбалісу, які першы свой газетны допіс апублікаваў у 1930-м, з няблізкай пары маладосці ўспамінаецца перадусім рамантычнае: радасць журналісцкага хрышчэння на сяўбе ў наваствораным калгасе, стасункі з людзьмі ці блізкімі людзей, чые імёны ў савецкія трыццатыя былі знакавымі, — з Аляксеем Стаханавым, з прататыпам горкаўскага Паўла Уласава Пятром Заломавым, з жонкай Мікалая Астроўскага Раісай Парфір'еўнай.

Не, ён углядаецца ў мінулае не праз ружовыя акуляры. Навелку пра тое, як калісь пашанцавала яму зрабіць фотаздымак тады легендарнага, а праз год расстралянага маршала Блюхера, заканчвае горкім папрокам рэспубліканскай газеце, якая ў нашы дні надумала даць месца апалогіі сталінскіх рэпрэсій. Але, пражыўшы актыўнае, паўнакроўнае жыццё, не згодны з нярэдка цяпер чутным кіслым меркаваннем, што пакаленні, да аднаго з якіх належыць, з'яўляюцца падманутымі, з малалецтва асляпленымі. Мабыць, таму адзін раздзел сваёй кніжкі склаў з партрэцікаў шанаваных ім за розум і сумленнасць знаёмых старшынь калгасаў: палемізуе з палітыкам, які ў адмаўленні ўсяго савецкага абагулена ахрысціў гэты корпус вясковых важакоў "чырвоны-

*Аркадзь Тоўсцік. "Вяртанне да вытокаў сваіх". Мн. ЗАТ "Канфіда", 1997.*

*М. И. Шибалис. "Мгновения в памяти и в сердце". Мн. БИТ "Хата", 1998.*

З нагоды

# Эпісталярый паэта сведчыць...

У ЮБІЛЕЙНЫ год Адама Міцкевіча ўсё часцей зноў і зноў можна пачуць спрэчкі аб этнічным паходжанні паэта. У нейкай ступені сюды прымыкае і пытанне аб дэфініцыі (вызначэнні) паняцця Літва. Што яна сабой уяўляе — этнічнае ўтварэнне, вялікая і магутная сацыяльная папуляцыя, алегархічны клан? Пры высвятленні гэтых пытанняў неяк менш за ўсё звяртаюцца да аўтарытэтнага голасу самога класіка сусветнай літаратуры.

Пра сваю Айчыну, імя якой Літва (не Жамойць, не Жмудзь) летапісная ды гістарычная з былымі сталіцамі у Навагрудку і ў Вільні, паэт гаворыць ужо ў першых радках "Пана Тадэвуша: "litwo! Ojczyzno moja! Ty jestes jak zdrowie..." Сюды ж дапасоўваецца і падзагаловак эпапеі — "Апошні заезд на Літве". Прачытаўшы паэму на мове арыгінала ці ў перакладзе на беларускую або рускую мовы, мы не можам не пагадзіцца, што Літвой Адам Міцкевіч называе ў адпаведнасці з тагачаснай традыцыяй сваю родную Навагрудчыну, якая ўваходзіла раней у склад Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Пра гэта сведчаць літаральна ўсе мастацкія творы і часткова публіцыстычная спадчына вялікага сына навагрудскай зямлі, зноў жа — на якой бы мове яны ні былі напісаныя.

Адносна сваёй нацыянальнай прыналежнасці наш славуты зямляк пакінуў шмат сведчанняў на старонках сваёй эпісталярнай спадчыны. Там жа мы знойдзем і словы, скажам прама, некампліментарныя пра Жамойць і жмудзінаў, г. зн. пра Літву і літоўцаў, калі карыстацца сучаснай этнатэрміналогіяй. Чытаючы гэтыя дакументы, мы лёгка пераканаемся ў тым, што Адам Міцкевіч не быў ні палякам, ні жмудзінам, ні яўрэем і нават ні татарынам, і што Літва і літвіны — гэта краіна і народ. Калі перавесці на сённяшнюю тэрміналогію — Беларусь і беларусы.

Вось фрагмент ліста А. Міцкевіча да роднага брата Францішка Міцкевіча да 3 сакавіка 1841 г. з Парыжа: "...College de France, дзе я чытаю лекцыі, гэта вышэйшая школа для выпадковай публікі. Студэнтаў уласна няма. Прафесарам давodзіцца ўздзейнічаць красамоўствам, што для французаў лягчэй; чым для мяне. Галоўная непрыемнасць майго становішча заключаецца ў тым, што я знаходжуся сярод эміграцыі. Ты не можаш і ўявіць, якое гора з гэтымі людзьмі, што замкнуліся ў журботным становішчы. Кожны ўдзень і ўночы выдумваюць палітычныя праекты і шалеюць, не маючы сіл перацягнуць іншых на свой бок. Ходзяць нашы і на мае лекцыі, але толькі затым, каб выведаць, да якой партыі я належу: арыстакрат ці дэмакрат? І сярдуюць, што я ім не гавару пра палітыку.

Цяпер, здаецца, крыху супакоіліся. У будучым годзе, калі я тут застануся, будзе лягчэй і з курсам і з эміграцыяй, якая, відаць, пакіне мяне ў спакоі. Можа быць, удасца атрымаць званне прафесара без натуралізацыі, бо мне неяк шкада перастаць быць **літвінам**(тут і далей выдзелена мною. — **Я. Г.**) ды і не па душы ператварацца ў француза.

З радзімы даўно не маю ніякіх вестак. Пра Аляксандра не ведаю нават, ці жывы ён.

З тутэйшых знаёмых часцей за ўсё сустракаюся з Занам, Кашыцам і ўсякай іншай **Літвой**. Зан часта хварэе. Брат яго Тамаш цяпер у Пецярбурзе..."

А вось яшчэ радкі са студзеньскага ліста 1847 г. з Парыжа да таго ж Францішка: "Будзь толькі заўсёды ўпэўнены, што мая дзейнасць бярэ пачатак з той глебы, на якой мы выраслі ў бацькоўскім доме... Пра Аляксандра я ведаю толькі, што ён жывы і стала знаходзіцца ў Харкаве. Ён ажаніўся на дачцэ Францішка Тарасевіча, бывае часам у Навагрудку, наведаў Завоссе..."

І зноў жа да брата Францішка пра брата Аляксандра ў лісце ад 14 чэрвеня 1852г. з Парыжа: "...Я чуў, што брат наш Аляксандр вярнуўся ў навагрудскія краі і купіў там маёнтак. Мне здаецца, што ты павінен ведаць аб гэтым, паведамі мне, калі ласка, што гэта за маёнтак. Як табе вядома, мы ж ведаем тыя краі, і было прыемна даведацца дакладна, дзе там наш брат асеў".

26 чэрвеня 1853 г. Адам Міцкевіч піша з Парыжа ў Чылі да сябра ранняй маладосці таксама філамата Ігната Дамейкі: "Дарагі Ігнат! Вось сёе-тое аб нашых былых сябрах і мінулых часах. З двух канцоў зямлі, што аддзяліла нас аднаго ад другога, мы бачым па-рознаму сённяшнія часы, у мінулым жа сустракаемся як і раней. Не ведаю, ці вядома табе, што ад нас пайшоў твой былы знаёмы, а мой стары сябра (з першага класа) Ян Чачот. Дзень яго смерці нам невядомы. Мы даведаліся толькі, што ён ужо памёр. Прыблізна ў той час, калі ён памёр, мне ўсё снілася аб ім адно і тое ж: што ён прыехаў у Парыж, а я з-за нейкіх перашкод не магу з ім пабачыцца. Гэта мучыла мяне ў сне, і я прачынаўся сумны. Мне доўга не хацелася верыць паведамленням аб яго смерці, якія ў нас так цяжка праверыць. Цяпер я ведаю напэўна, што ён памёр. Доўгія гады і многа ўспамінаў звязвалі мяне з ім. Перад смерцю ён выпусціў беларускія песні, і яны там у нас выклікалі многа спагады..."

Цікавым бачыцца і ліст да Веры Хлюсцінай ад 25 кастрычніка 1857 г. з Канстанцінопаля: "Трэба быць надзеленым вельмі дэмакратычнымі і вельмі моцнымі органамі пачуццяў, каб вынесці першае ўражанне ад усходняга горада. Між іншым, я хутка прывык. Прызнаюся, што усё гэта не пазбаўлена чароўнасці, а я затрымліваўся ў некаторых частках горада, якія здаваліся мне зусім падобнымі на вуліцы майго роднага мястэчка (Навагрудка) у **Літве**..."

Немагчыма не прывесці хаця б фрагмент ліста да сваёй дачкі Марыны у Рым з Парыжа ад 19 снежня 1851 г.: "Мне прыемна, што Рым цябе крануў. Усякая душа павінна быць чым-небудзь рухома; калі яе не кранае вялікае, дык яна кешкаецца ў нізасці і подласці. Рым пакуль найвялікшая рэч на зямлі. Не многім давялося пабываць у Рыме. У маладосці я ледзь асмельваўся марыць аб гэтым. У мае часы трапіць туды было так цяжка (з Навагрудка), як цяпер з зямлі на месяц. Ты і не паверыш, як мы сумавалі па ім, чытаючы Лівія, Святонія і Тацыта... Дзе ваш завулак? Я не памятаю яго, хаця Рым адзіны горад (апроч Навагрудка і Вільні), які я ведаю значна лепш, чым Парыж. Напішы, паміж якімі вуліцамі гэты завулак..."

Не абыдзем увагай і радкі ліста да Багдана Залескага (малароса) ад 23 чэрвеня 1841 г. з Парыжа: "Кабінеты задумваюць штосьці адносна княства Варшаўскага, але пра нас і не думаюць. Гора нам, **літвінам**, і вам, русінам, і толькі на Бога ўся надзея ды на заступнікаў Польшчы, калі яны яшчэ прызнаюць у нас сваіх суайчыннікаў..."

А вось з лістоў юнацкіх гадоў. Да Тамаша Зана ад 15 жніўня 1822 г. з Вільні ў Наваградак: "Хацелася б мне самому яшчэ праехацца па наваградскіх мясцінах, але не ведаю, ці ўдасца да першага верасня, а першага я абавязан быць на месцы..."; да Францішка Малеўскага ад 16 чэрвеня 1820 г. з Коўна: "Тут нарадзіўся праект павезці мяне да мора, аднак здароўю майму марскія купанні, на думку Кавальскага, карысці не дадуць. Усё ж, паколькі дарога бясплатная і ў прыемнай кампаніі, прытым можна будзе ўбачыць Мітаву, Мемель, а быць можа, і Крулевец, то калі паездка гэта адбярэ не больш двух тыдняў вакацый, я хацеў бы здзейсніць яе — не, не хацеў бы, — які я непастаянны! Якраз цяпер, калі я стаў пісаць ліст і вашы лісты нагадалі мне пра вас і пра Наваградак, рашэнне маё мяняецца. Не магу ехаць на два тыдні пасля св. Пятра — дзе б я вас потым усіх разам убачыў?.."; амаль за тыдзень да гэтага — 11 чэрвеня 1820 г. з Коўна пісаў да Юзэфа Яжоўскага: "Убачу вас усіх, і хаця гэту заўчасную радасць атручвае дрэнны стан здароўя, з-за якога, калі яно не наладзіцца, усе канікулы страцяць для мяне сваю прывабнасць, — усе ж мне будзе прыемней з вамі, чым у гэтым праклятым Коўне, якое так дорага каштавала мне..."; а 27 студзеня 1820 г. паведамляў філаматам у Вільню з Коўна: "Прыходжу са школы амаль заўсёды раззлаваны ці непаслушэнствам, ці, што бывае часцей, тупасцю вучняў. Дарэмная праца! Кідаюся на ложак і ляжу некалькі гадзін, ні пра што не думаючы, злы і кіслы. Часам хандра і злосць такія вялікія, што дастаткова дадаць дзве унцыі, каб звар'яцець ці павесіцца..."; а яшчэ крышку раней — 19 лістапада 1819 г. — адтуль жа пісаў Юзафу Яжоўскаму: "Усё па-старому — вось першае паведамленне. Усё кепска: так выцякала б з першага, аднак скажу толькі: усё не вельмі добра. Нуда, бесталкоўшчына, санлівасць, лянота etc. Астывае жаданне рупліва выкладаць, паколькі ў старэйшых класах галовы зусім "жмудскія"; зрэшты, самі настаўнікі наракаюць, што ніколі не траляліся школы, настолькі бедныя на таленты. Вось мы і мучаемся, і пакутуем..." І яшчэ да таго ж Юзафа Яжоўскага ад 18 кастрычніка 1819 г. з Коўна: "Але маркотней за ўсё, што і карысці мала, школа нешматлікая, а значыць, і талентаў мала; у малодшых класах усё ж ёсць цудоўныя надзеі, у старэйшых — убоства. Толькі двое-трое на людзей падобны, і вось яны да мяне прывязаліся. Я іх заахвочваю, даю кніжкі, чытаюць; вялікімі людзьмі не стануць, але добрымі і нядрэнна навучанымі маглі б стаць, калі б узяліся за працу і трапілі ва універсітэт, таму што сякія-такія здольнасці ў іх ёсць. Да гэтай пары ім было няўцям, што значыць пісаць. Ніякага заахвочвання да навук у школе няма, здаецца, быццам яна паміра е ці засынае; вучні гавораць ціха, баязліва і марудна, настаўнікі — таксама. Беднасць у павеце і ў школе крайняя; у старэйшых класах, г. зн. у пятым і шостым, усяго адзін толькі вучань жыве на свае сродкі, астатнія вымушаны гувернёрстваваць, а па сканчэнні школы шукаць кавалак хлеба..."

Цытаванне такога накірунку можна было б доўжыць, але, думаецца, дастаткова і гэтага матэрыялу, каб і ён у пэўнай ступені мог працаваць на рашэнне аб'ектыўна неіснуючых праблем, але якія сёй-той са зноўспечаных калялітаратурных (і не толькі) спецыялістаў-рэвізіяністаў усё ж імкнецца падняць і ўзняць як мага вышэй.

**Яўген ГУЧОК**

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

●

Галоўнае на тэлебачанні — рэклама. У астатняга мала шанцаў. Былыя ўзгадваюцца райкамы з іхнімі "пасля даклада танцы".

●

Трошкі пра футбол (запіскі жанчыны). А што калі не нападаць, а толькі абараняцца — ці можна такім чынам выйграць? І як вызначыць пераможца, калі абедзве каманды толькі абараняюцца? Увесці спецыяльны паказчык: "колькасць непрапушчаных мячоў"? Хаця, скуль яны возьмуцца, тыя мячы? Не, у футболе я канчаткова заблыталася. Але што тады значыць "гуляць ад абароны"? Ці гэта ўжо не футбол?

●

Лета, колькі разнастайна аголеных, некаторыя дайшлі да крайнасці. І адразу відаць стала, як мала наўкруг гэтай самай разнастайнасці.

●

Болем прасякнуты верш Івана Чыгрына пра помнік сталінскаму прыслужніку Калініну ў Мінску (гл. "Крыніца", N 35). На маю думку, гэта адзін з самых безаблічных манументаў у беларускай сталіцы. А ці не пара ставіць пытанне, як нам пазбавіцца ад гэтых несамавітых збудаванняў? — Не-не-не, — глядзіць на мяне з надзеяй не самы выдатны помнік піянеру Марату Казею.

●

Ці не самы ходкі тавар на базары — патэнтаваныя сродкі барацьбы з тараканамі. Тараканаў многа — гэта вызывае трывогу. Але расце культура быту, ніхто не хоча мірыцца з паразітамі. Два міністэрствы адначасова робяць высновы, што ў іх усё ў ажуры — Міністэрства гандлю і Міністэрства культуры. Ды ці варта паддавацца падману, бо міністэрскія ўстановы самі, кажуць, церпяць ад тараканаў.

●

Прыкметы часу: маладыя людзі з пачкамі грошай, што не ўлазяць у кішэні. Занадта многа грошай? І грошай, і людзей харошых, у каторых такія грошы.

●

Усё мяняецца пакрысе без аніякай візы, курыца ўжо не яйкі нясе, а нейкія "кіндэрсюрпрызы". Цэны ўзрастаюць спакваля, былыя вартасці бурацца, курыца каштуе цяпер як цяля, а "кіндэрсюрпрыз" — як курыца.

●

Слухаю сімфонію брэху, і, дальбог, не да смеху. З чалавекам заўсёды нешта не так, не церпяць сабакі чужога духу. Але як сабакі брэшуць на сабак — варта паслухаць. Каб не было знявагі, пабрахаць ніколі не шкодзіць. Аднак больш за людзей сабакі ненавідзяць сабак іншай пароды. Зрэшты, у гэтай алегорыі замяняюцца катэгорыі.

●

Ці ёсць у нас прастытуцыя? Па канстытуцыі — не. Але паслухайце ўрачоў, пагаварыце з міліцыяй — і афіцыйнае "не" запыліцца на паліцы. Я не лезу з мараллю, не вучу людзей, але Беларусь амаль ужо не раджае дзяцей. Да месца ці не да месца, самі дайце рады: дзіцячая каляска каштуе дзве зарплаты.

●

Абураліся, кпілі з глупстваў рэкламы, смяяліся і пляваліся, а калі надышоў рашучы момант — набылі тое, што ўнушалася.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 2848-461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 2848-525, 2847-985 |
| АДДЗЕЛЫ: | |
| публіцыстыкі — | 2848-204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 2847-985 |
| літаратурнага жыцця — | 2848-462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 2847-985 |
| паэзіі і прозы — | 2848-204 |
| музыкі — | 2848-153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 2848-153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 2848-462 |
| навін — | 2848-462 |
| мастацкага афармлення — | 2848-204 |
| фотакарэспандэнт — | 2848-462 |
| бухгалтэрыя — | 2366-071 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3560
Нумар падпісаны ў друк 3.9.1998 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999

Заказ 5256/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12